— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь!*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

6 СНЕЖНЯ 1996 г. № 49 (3873) Кошт 2 500 руб.

ЧЫТАЧ — ПРА "ЛіМ"

## "А ПРОСТА БЕЛАРУСКІМ..."

Рэдакцыйная пошта... Небагатая яна цяперашняю парою. Збяднеў люд наш, асабліва інтэлігенцкіх прафесій, — збяднела і рэдакцыйная пошта. Многія колішнія прыхільнікі "ЛіМа" сёння проста не ў стане падпісацца на тыднёвік. Часам праблемай робяцца і выдаткі на канверт з маркаю.

Тым не менш, наш чытач застаецца з намі і, няхай сабе радзей, чым у "стары добры час", піша ў газету лісты. Што ў тых лістах? Вершы, апавяданні, артыкулы, самая розная культурніцкая інфармацыя, роздум аб часе і жыцці. Досыць часта чытачы гавораць і пра сам штотыднёвік — робяць заўвагі адносна асобных публікацый, даюць ацэнку пазіцыі "ЛіМа", выказваюць меркаванні па самых розных жыццёвых праблемах, а таксама пажаданні калектыву рэдакцыі. Дзеля пацвярджэння — колькі сціслых вытрымак з такіх лістоў.

"Прывітанне адважнаму калектыву "ЛіМа", які працягвае бараніць беларушчыну ў цяжкі для Бацькаўшчыны час. Наша галоўнае свята — 25 сакавіка — будзе, упэўнены, і ў календары, і ў сэрцах беларусаў, і залунае яшчэ наш Сцяг і ўздымецца наша святая Пагоня", — піша адзін наш чытач, які зараз на дыпламатычнай рабоце за мяжой.

"Вашым "ЛіМам", можна сказаць, жыву, радуюся ім, ганаруся, калі і маё сціплае слова знаходзіць у ім прытулак", — *гэта ўжо радкі з пісьма другога нашага чытача і аўтара.*

"Трымайцеся, хлопцы! Папраўляйцеся на хаду, пазбаўляйцеся ад недахопаў, не плачце аб мінулым, — мы старажытнейшы народ, мы маем сваю гісторыю, мову і культуру, а, значыць, і будучыню. "ЛіМ" мне даспадобы!" — падтрымлівае нас трэці лімаўскі добразычлівец.

Вядома ж, трапляюцца лісты і зусім іншага зместу і тону. Аўтары іх бэсцяць нас "зацятымі нацыяналістамі", абвінавачваюць у смяротных грахах, дагаворваюцца да таго, што "ЛіМ", маўляў, "вносит ненависть в отношения между братскими славянскими народами" (лісты такія, дарэчы, пераважна на рускай мове)... Друкаваць апошнія, спрачацца з іх аўтарамі чамусьці не хочацца. Хіба ж аўтарам такіх аблыжных абвінавачванняў што-небудзь дакажаш? Ворагам беларушчыны даваў адлуп яшчэ Вялікі Купала, але ж яны *нічому так і не навучыліся...*

А што да лістоў сяброўскіх, у якіх добрыя словы ў наш адрас, дык — мы ўстрымліваліся ад іх публікацый па іншай прычыне. Друкаваць іх выдавала неяк няёмка: гэта ж нібыта хваліць саміх сябе, хоць і чужымі вуснамі.

Аднак жа лісты такія прыходзілі і прыходзяць. Лісты, у якіх чытачы пішуць не пра што іншае, а менавіта пра газету. Пра наш штотыднёвік. Пра наш "ЛіМ". Пішуць з разлікам — і нярэдка! — на тое, што іхнія думкі:, развагі і ацэнкі прачытаюць не толькі супрацоўнікі рэдакцыі, але і іншыя чытачы. Маюць яны на гэта права? Безумоўна ж, маюць. І мы ўсё больш і больш схіляліся да таго, што ёсць рэзон мяняць статус гэтых лістоў: хопіць збіраць іх у рэдакцыйныя папкі "для ўнутранага карыстання", трэба, варта даваць ім выйсце "ў свет", благаслаўляць "у друк". *У выніку і выходзіць сёння на старонкі штотыднёвіка наша* новая (даўно забытая старая!) рубрыка "Чытач — пра "ЛіМ". Сёння — яе прэм'ера.

●

Для мяне "ЛіМ" — гэта... "ЛіМ". І, бадай, цяжка неяк інакш вызначыць тое, што хаваецца (і адкрываецца пры знаёмстве з кожным новым нумарам газеты) за гэтымі трыма літарамі — Л і М. Літаратура і мастацтва? Думаю, такім значэннем даўно ўжо, прынамсі, з канца 80-х, абрэвіятура "ЛіМ" не вычэрпваецца. Сённяшні "ЛіМ" — гэта "ЛіМ" і... Інакш кажучы, гэта выспа, ці, хутчэй, невялікі мацярык беларушчыны, у цэнтры якога і знаходзяцца ўласна літаратура і мастацтва Беларусі; мацярык, які ў сённяшніх варунках аказваецца пад небяспечным націскам антыбеларускага акіяна. Таму, пакуль не аціхлі яшчэ, а нават усё больш узмацняюцца яго злавесныя хвалі, невымоўнае і балючае шматкроп'е непазбежна суправаджае ўласна "ЛіМ", газету нібыта толькі аб літаратуры і мастацтве. І менавіта такім "ЛіМам", не выключна элітарным, не савецка-пакорлівым, не жоўтым і не чырвона-зялёным, а проста... беларускім, якім ён ёсць зараз, мне заўсёды і хацелася б бачыць маю любімую газету.

**Людміла ШЧЭРБА,**
**аспірантка Інстытута літаратуры АНБ**

*(Працяг на стар. 4)*





## "Я ЖЫВУ ТЭАТРАМ І ТОЛЬКІ..."

***Алесь Лабанок, акцёр Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, ганараваны званнем заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, гэтай самай рэспубліцы нагадаў пра сябе нядаўна яшчэ раз — самым акцёрскім чынам: удзелам у фестывалі монаспектакляў "Я" і асталяваннем на адным з прызавых месцаў. Спектакль "Нічога, нічога — маўчанне" паводле М. Гогаля ў рэжысуры Антона Грышкевіча афіцыйна заняў другое месца і атрымаў процьму самых адметных неафіцыйных водгукаў. Зрэшты, сам акцёр мяркуе, што яго поспех нароўні дзеліць спадар Гогаль, і прызнаецца:***

*Гутарку з Алесем Лабанком чытайце на стар. 15.*

## З ЛЕПШЫХ НАБЫТКАЎ

**У выдавецтве "Юнацтва" ў серыі "Школьная бібліятэка" пад адной вокладкай пабачылі свет два творы, што сведчаць аб тым, наколькі плённа пісьменнікі асэнсоўваюць жыццё народа ў лёсавызначальныя перыяды — раман Г. Далідовіча "Гаспадар-камень" і аповесць А. Карпюка "Пушчанская адысея".**

**Па завядзёнцы, на апошнюю старонку вокладкі вынесены выказванні знакамітых творцаў пра апублікаваныя творы. В. Адамчык так *піша* пра Г. *Далідовіча:* "У творчасці Г. Далідовіча падкупляе праўдзівая прастата сюжэта, лагічнасць фабулы, што найбольш характэрна для сапраўднае і філасафічнае прозы. У прозе Г. Далідовіча рэалістычна-праўдзівай, як сёння прывыклі вызначаць, — чорнаўскай, ёсць шчырасць да чалавека, надзеленага талентам працы, справядлівасці і дабрыні". У. Калеснік пра аповесць А. Карпюка сказаў так, "Пушчанская адысея" ...увайшла ў тую рэалістычную плынь беларускай прозы аб вайне, пачатак якой паклалі ваенныя апавяданні і раманы К. Чорнага, а напаўнялі яе рэчышча, акрамя твораў В. Быкава, аўтабіяграфічныя раманы і аповесці А. Адамовіча, трагедыйныя апавяданні Я. Брыля..."**

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ



**У Мінск чартарным рэйсам з Лондана прыбыла група брытанскіх дзяцей і асоб, якія іх суправаджаюць, для правядзення акцыі ўручэння калядных падарункаў выхаванцам Асіповіцкага дома-інтэрната і іншым беларускім дзецям, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**



**Гэтым рэйсам дастаўлена 10 тон грузу гуманітарнай дапамогі. Акцыя арганізавана брытанскім бокам сумесна з Мінскім гарвыканкамам і фондам "Медыцына і Чарнобыль".**

*На здымках: ідзе разгрузка гуманітарнай дапамогі, што прыбыла з Лондана; у час вечара, прысвечанага раздачы беларускім дзецям калядных падарункаў.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

## ДАПАМОЖА "БЕЛАРУСЬФІЛЬМ"



# ЕЛЬЦЫН-93 — ЛУКАШЭНКА-96: ТРАГЕДЫЯ І ФАРС

## ПОГЛЯД З МАСКВЫ НА ПАДЗЕІ Ў БЕЛАРУСІ

Ужо неаднойчы заўважана: тое, што адбываецца цяпер на Беларусі, нагадвае падзеі 1993 года ў Расіі. Ідзе ўпартае супрацьстаянне прэзідэнта і парламента. Многія элементы гэтага супрацьстаяння — амаль дакладная копія таго, што было ў нас тры гады назад. Прамы зварот кіраўніка дзяржавы да народа праз галаву Вярхоўнага Савета, пагрозы яго роспуску, кола ачаплення вакол будынка ВС, пераманьванне хісткіх дэпутатаў, спробы нейтралізацыі Канстытуцыйнага суда...

Да нейкага моманту здавалася, што гэта толькі выпадковыя супадзенні. Аднак цяпер ужо ясна: дарадцы Лукашэнкі старанна вывучылі дзеянні Ельцына трохгадовай даўнасці, што прывялі яго да перамогі, і ў патрэбную хвіліну даюць свайму шэфу адпаведныя рэкамендацыі (вядома, робячы сякія-такія папраўкі на абставіны).

Але Лукашэнка капіруе Ельцына не толькі дзеля дасягнення поспеху. Ён нібы просіць ратунку ў расійскага "старэйшага брата": "Ну ж вы глядзіце, Барыс Мікалаевіч, я ж апынуўся ў абсалютна такім жа становішчы, як вы ў 93-м. На мяне тутэйшая шпана гэтак жа наязджае, як на вас тады маскоўская. Няўжо ж вы мяне кінеце ў такой сітуацыі?"

На самай справе падабенства беларускай сітуацыі з тым, што адбывалася ў Расіі, — чыста знешняе. У канфлікце з тагачасным Вярхоўным Саветам Ельцын адстойваў для Расіі права прадаўжаць з такой цяжкасцю пачаты шлях да дэмакратыі і рэформаў. Тое, што гэты канфлікт у рэшце рэшт вырашыўся крывёй, — трагедыя расійскага прэзідэнта. І разам з тым — трагедыя ўсёй краіны.

Лукашэнка нічога такога не адстойвае. Слова "дэмакратыя", "рэформы" для яго — гук пусты. Ён змагаецца за ўладу, неабмежаваную адзінаасобную ўладу.

Што ён з ёй будзе рабіць? Наўрад ці ён сам гэта ведае. Відаць, будзе далей імправізаваць, як імправізаваў дагэтуль, толькі з яшчэ большай свабодай. Магчыма, яго панясе назад, у бок сацыялізму, магчыма — у другі бок...

Па сутнасці, гэта тып Мікіты Хрушчова, чалавека неглыбокага, з захапленнямі, упэўненага, што ён вось-вось учэпіцца за хвост абсалютнай ісціны, як наладзіць для ўсіх вечнае шчасце і дабрабыт, а самому каб сесці дзе-небудзь у цяньку на пагорку ў ролі наймудрага ўсенароднага "бацькі" і літасціва прымаць словы ўдзячнасці ад сваіх ашчасліўленых чадаў.

Прынамсі, прасторы для імправізацыі ў Лукашэнкі няшмат. Што рабіць з беларускай эканомікай, якая развальваецца, былы дырэктар саўгаса зусім не ўяўляе. *Мешанка з сацыялістычных, рынкавых, папулісцкіх, дзяржаўных, панславянскіх, антызаходніх ідэй, якія раяцца ў ягонай галаве, — кепскі тут дарадчык.* А таму ўсе яго погляды скіраваны на суседку Расію: а раптам не дасць згінуць, уратуе. Менавіта ў гэтым напрамку ён мабілізуе галоўны свой талент — талент дэмагога, абрыньваючы на "рускіх братоў" плыні славес аб тэрміновай і неадкладнай неабходнасці інтэграцыі, аб тым, што Беларусь для Расіі — адзіная абарона ад каварнага Захаду *і г. д., і да т. п.*

Лукашэнка цвёрда перакананы: Беларусь занадта смачны кавалак для маскоўскіх кіраўнікоў, каб яны адштурхнулі чалавека, які прапаноўвае ім яго. Гэта ўпэўненасць прасціраецца настолькі далёка, што ён нават дазваляе сабе час ад часу гладзіць сваіх расійскіх партнёраў супраць поўсці. Напрыклад, рэгулярна, не радзей як раз у месяц, ушчэнт публічна разносіць Белавежскія пагадненні, нібы забываючы, што адным з ініцыятараў гэтых пагадненняў быў Ельцын. Нічога, маўляў, праглыне.

Ну, а што ж Масква? Нацыянал-камуністычная думская большасць, мы бачылі, аказала Лукашэнку захопленую безагаворачную падтрымку. У сваім родзе гэта факт прыкметны. Цяпер ужо абсалютна ўсім павінна быць ясна, наколькі лжывыя пастаянныя запэўніванні гэтых дзеячаў, што, маўляў, галоўная іх антыпатыя — дыктатура. Улада аднаго чалавека. Пра тое, што на самай справе падобны ўладны рэжым іх нікольки не бянтэжыць, якраз і сведчаць іх палымяная любоў да цяперашняга беларускага начальніка, усямернае яго маральнае заахвочванне, падмога ва ўсталяванні аднаасобнага аўтарытарнага кіраўніцтва. Значыць, справа не ў дыктатуры, а ў духоўнай блізкасці (ці няблізкасці) таго альбо іншага кандыдата ў дыктатары.

Калі ж улічыць, што цяперашняя селязнёўская Дума — прамая ідэйная спадчынніца хасбулатаўскага Вярхоўнага Савета, самі па сабе адпадаюць размовы, быццам усе гэтыя апошнія гады расійскія заканадаўцы толькі і робяць, што змагаюцца за дэмакратычныя формы кіравання ў краіне. Зусім за іншае яны змагаюцца.

Між іншым, сам Селязнёў (разам са Строевым) на мінулым тыдні спрабаваў згладзіць гнятлівае ўражанне ад ганебнага дзейства ў Ахотным радзе. (*Да слова сказаць, не менш* ганебна выглядала і тэлеперадача "Сам-насам" з яе вядучым Любімавым, які выдыгаўся перад беларускім правадыром і "апанентамі" правадыра, што стаялі літаральна выцягнуўшыся).

Што тычыцца Ельцына і Чарнамырдзіна, то яны нібыта ўвесь час угаворвалі Лукашэнку не надта буяніць. Але ўгаворвалі неяк вяла і нерашуча. Канфідэнцыяльна і паўканфідэнцыяльна. Між тым перад намі якраз той выпадак, калі важны не столькі словы, колькі інтанацыі, з якімі яны бываюць прамоўлены. *Калі б* Лукашэнка адчуў жалеза ў голасе сваіх крамлёўскіх шэфаў, гэта, несумненна, хутка ахаладзіла б яго. Ды жалеза не было.

Пазіцыя Крамля ў адносінах да Лукашэнкі дваістая: з аднаго боку, як быццам непрыстойна адкрыта падтрымліваць фігуру гэтага адыёзнага аўтарытарнага дзеяча, які бесцырымонна плюе на дэмакратыю, на свабоду прэсы, на іншыя нормы цывілізаванага быцця, з другога — вельмі ўжо заманлівая на самай справе ідэя *далучэння Беларусі да Расіі, ідэя, якую* Лукашэнка пастаянна трымае ў якасці прынады перад носам сваіх маскоўскіх апекуноў. Жыва ўяўляеш, як у разнастайных уладных кабінетах першапрастольнай разважаюць цяпер пра унікальнае стратэгічнае значэнне нашай заходняй суседкі, асабліва на фоне НАТА, які пашыраецца і насоўваецца.

Тут, аднак, варта прыгадаць, колькі было падобных разважанняў-роздумаў у нядаўнім мінулым, у ранейшых крамлёўскіх правадыроў. І да чаго яны *прывялі, чым кончыліся. Зноў* стаць на гэтую дарожку — дык ёй канца не будзе. Далучым, скажам, цяпер Беларусь, а далей такую ж логіку можна прадоўжыць у напрамку Польшчы, Чэхіі, Славакіі... Той жа Прыбалтыкі. Таксама стратэгічна вельмі важныя для нас тэрыторыі. Таму яны ўсе і баяцца нас дагэтуль больш за смерць. Таму гэтак адчайна і імкнуцца пад натаўскае крыло.

Адносіны расійскіх улад да Лукашэнкі — той асялок, на якім без цяжкасці можна *праверыць, якія падыходы ім сёння* бліжэйшыя і даражэйшыя: цывілізавана-дэмакратычныя або традыцыйна-імперскія.

Хоць Лукашэнка пастаянна атаясамляе сябе з беларускім народам, зусім не факт, што гэты народ лёгка расстанецца са сваёй у такіх пакутах набытай незалежнасцю, няхай нават гэта расстанне будзе ахінута адзеннем канфедэрацыі з Расіяй (дзе, абсалютна зразумела, Беларусі сёння падрыхтавана другарадная, толькі падпарадкаваная роля). Мы толькі-*толькі пачынаем* выблытвацца з чачэнскай авантуры, але нам ужо не церпіцца залезці ў новую пертраску. Між тым беларускія лясы, як вядома, для партызанскай вайны падыходзяць нікольки не менш, чым чачэнскія ці югаслаўскія горы...

Але нават калі да крывавых сутычак не дойдзе справа... Беларусь ужо багата прысутнічае ў расійскім палітычным жыцці. Пастаянна ўкліньваючыся ў яго, Лукашэнка актывізуе антыдэмакратычныя, імперскія, рэваншысцкія сілы ўнутры Расіі.

Улазіць ён і ў расійскую эканоміку, прычым гэткім жа негатыўным чынам. У пачатку гэтага года мінскі прэзідэнт ужо ачмурыў маскоўскія ўлады, дамогшыся так званага "нулявога варыянта": яму даравалі даўгі за нафту і газ у кошт арэнднай платы за знаходжанне ў Беларусі расійскіх воінскіх часцей. Цяпер ён зноў дамагаецца такога ж *"варыянта"*. Магчыма, і даб'ецца: ну што такое для нашага чыноўніка мільярдныя даўгі расійскай казне — не ягоная ж кішэня церпіць. І пляваць яму, што людзям месяцамі не плацяць зарплату, пенсіі...

Вядома, саюз Расіі і Беларусі магчымы. Але не на хісткім падмурку валюнтарысцкіх лукашэнкаўскіх фантазій. Перш за ўсё — на падставе паступовага выроўнівання палітычных, эканамічных, заканадаўчых падыходаў. На падставе дэмакратыі і рынку.

*Фігура Лукашэнкі* — фарсавая, *камічная* фігура. Нельга без усмешкі назіраць за ўсімі ягонымі крыўляннямі, дэмагагічнымі хітрыкамі, пацалункамі з Барысам Мікалаевічам і Віктарам Сцяпанавічам, кіданнем апарожненага фужэра на падлогу пасля слоў, што ўвогуле-то ён, Лукашэнка, не п'е, але дзеля такога выпадку... Фарс уяўляюць сабой яго пастаянныя апеляцыі да народа, гэты рэферэндум, калі людзі галасавалі невядома за што, калі выбарчым камісіям не было выдаткавана ні капейкі... *Але ў цэлым тое, што перажывае сёння* Беларусь дзякуючы свайму прэзідэнту, — гэта, вядома, зусім не фарс, гэта таксама трагедыя, хоць і іншай уласцівасці, чым перажытая ў 1993-м Расіяй.

На дэманстрацыях у Мінску ў гэтыя дні мільгалі лозунгі: "Масква, вазьмі Лукашэнку сабе!". Але не Масква прывяла гэтага дзеяча да ўлады. Два гады назад беларусы — ва ўсякім разе тыя, што прыйшлі на выбары, — самі выбралі яго. Ніхто не прымушаў. Хоць *вынікі цяперашняга рэферэндуму* не больш праўдзівыя, чым вынікі галасавання за Заўгаева ў Чачні, усё ж, калі меркаваць па апытаннях, значная частка беларускіх выбаршчыкаў на самай справе па-ранейшаму падтрымлівае мілага ім "Сашу". Гэта яшчэ адна наглядная ілюстрацыя: да дыктатуры таксама можна прыйсці і дэмакратычным, выбарным шляхам. Нездарма беларускаму правадыру, паводле яго ўласнага прызнання, так падабаецца Гітлер. Той жа таксама, як вядома, узышоў на вяршыню *ўлады праз працэдуру галасавання.*

Што ж, памылкі ў выбары правадыроў ва ўсіх бываюць. А асабліва ў нестабільныя, пераходныя часы, калі зямля, здаецца, плыве пад нагамі. У такія часы асабліва хочацца займець уласнага "бацьку нацыі", які цвёрдай рукой навёў бы парадак і, калі магчыма, найкароткім шляхам прывёў бы краіну да нармальнага жыцця. Ні да якога такога жыцця Лукашэнка Беларусь, вядома, не прывядзе.

Кампраміс, якога быццам бы ўдалося дасягнуць у пятніцу ў Мінску, як вядома, не адбыўся. Па-за ўсялякімі сумненнямі, "бацька нацыі" будзе цяпер з патроенай сілай прадаўжаць свае дамагальніцтвы, якія датычаць абсалютнай, непадзельнай улады. Уласна кажучы, пасля "перамогі" на нядзельным рэферэндуме ён практычна атрымаў яе. Сваю долю адказнасці за ўсё гэта нясуць і маскоўскія стырнавыя, якія не захацелі знайсці часу выпрацаваць прынцыповую пазіцыю ў адносінах да таго, што адбываецца на Беларусі, палічыўшы, што адно толькі іх з'яўленне ў Мінску з аліўкавымі галінкамі ў зубах вырашыць усе праблемы.

**Алег МАРОЗ**

*("Литературная газета", 27 лістапада 1996 г., N 48)*

# "А ПРОСТА БЕЛАРУСКІМ..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

●

Чытаю і люблю "ЛіМ". Лічу, што ўжо ў самой назве газеты закладзена тое, што павінен ведаць і любіць кожны творчы чалавек. Ну што, сапраўды, за мастак, за інтэлігент, калі ён не чытае сваю газету?! "ЛіМ" — адзінае ў нас выданне, у якім найбольш поўна і аб'ектыўна асвятляюцца праблемы нашай культуры ў шырокім сэнсе гэтага слова. Газета ў многім выхоўвае нас, адлюстроўваючы праўду жыцця, выяўляючы свой погляд на рэчы, які некаму можа і не падабацца.

І калі ўжо напісалася ў мяне гэтае слова "не падабацца", дык скажу, што мне не вельмі даспадобы "апратка" газеты. Як і сама наша культура сёння, апратка гэтая выглядае беднай. Я пажадаў бы калектыву "ЛіМа" падбаць аб больш выразным, больш якасным мастацкім і паліграфічным афармленні газеты, каб яна вылучалася сярод іншых выданняў не толькі зместам, але і формай. А найперш бы пажадаў лімаўцам не здраджваць сваёй пазіцыі, па-ранейшаму аддаваць свае талент і сілу на тое, каб газету любіла і чытала ўсё большае кола людзей, бо "ЛіМ" робіць добрую і карысную справу па аздараўленні душ беларусаў, па прасвятленні людской відушчасці.

**Анатоль ЯРМОЛЕНКА,**
**народны артыст Беларусі**

●

Яшчэ з таго часу, калі я толькі пачынала сваю акцёрскую працу ў тэатры імя Якуба Коласа, у "ЛіМе" бачу я суразмоўцу, з якім карысна і прыемна пагаварыць. Часам я пагаджаюся з ім, сяды-тады — не пагаджаюся, але заўсёды мяне падтрымлівае адчуванне таго, што мы гамонім з ім на адной мове, а не на розных, як гэта часта здараецца, калі бяру ў рукі іншыя газеты. "ЛіМ" выходзіць з пазнакай "газета творчай інтэлігенцыі Беларусі". Тым не менш, мне думаецца, што гэта газета ўсяго нашага беларускага народа, які ў душы сваёй высокаінтэлігентны і які праз "ЛіМ" дакранаецца, далучаецца да гісторыі, культуры, літаратуры, музыкі, мастацтва нашай айчыны. Жадаю, каб, нягледзячы ні на што, "ЛіМ" выстаяў, выжыў, не здаўся.

**Галіна ДЗЯГІЛЕВА,**
**мастацкі кіраўнік тэатра "Зніч"**

●

"ЛіМ" — гэта перш за ўсё традыцыя. Мне здаецца, што гэтае выданне можна назваць стылёвай квінтэсенцыяй сучаснай беларускай культуры (літаратуры і мастацтва ў першую чаргу). Я не ўяўляю сабе сучаснай беларускай літаратуры ў тым выглядзе, у якім яна ёсць, без "ЛіМа". І тая ж праблема, якая стаіць перад "ЛіМам", адлюстроўвае і праблему нашай літаратуры. Нам усім трэба ўсвядоміць, што калі мы не захаваем чытача, то яго запалоніць нешта іншае. А калі няма чытача, дык няма і нас. І вядома ж, "ЛіМу" трэба мяняць свой дызайн, сваё аблічча.

**Алесь ТУРОВІЧ**, ***паэт***

# КОЛЬКІ НАС І ШТО НАС ЧАКАЕ?

НАТАТКІ ДЭМОГРАФА

У ТЫСЯЧАГАДОВАЙ гісторыі дэмаграфічнага развіцця Беларусі геапалітычны фактар займаў адно з вядучых месц. У асобныя перыяды, якія ахоплівалі часам многія дзесяцігоддзі, а то і стагоддзі, ён аказваўся вырашальным. Размешчаная на мяжы дзвюх глабальных цывілізацый, культур і канфесій, Беларусь пераменна ўваходзіла то ў адну, то ў другую, наследавала якасці абедзвюх, фармуючы спецыфічную псіхалогію і духоўнасць. Паддаючыся часам асіміляцыйным этнічным, канфесійным і культурным уздзеянням, беларусы, у канчатковым выніку, захавалі сваю сутнасць і самабытнасць, большую частку тэрыторыі, мову, культуру і характар.

У XX ст., у першай яго палове, вызначальнае развіццё на ўсю сукупнасць дэмаграфічных адносін на Беларусі аказалі, рэвалюцыя 1905—1907 гг. і Сталыпінская рэформа, якая за ёй паследавала і змяніла сутнасныя механізмы фармавання дэмаўзнаўлення сялянства: абвяшчэнне ў сакавіку 1918 г. незалежнай Беларускай дзяржавы — БНР, а потым утварэнне 1 студзеня 1919 г. БССР у складзе СССР і фармаванне яе тэрыторыі; расчлененае функцыянаванне Беларусі ў дзвюх розных сацыяльных сістэмах — 38% яе насельніцтва і 40% тэрыторыі ўваходзіла ў 1921—1939 гг. у склад Польшчы; НЭП (які абумовіў для дэмаграфічнага развіцця тыя ж наступствы, што і Сталыпінская рэформа); калектывізацыя, індустрыялізацыя і культурная рэвалюцыя ў СССР і ўдзел у гэтых працэсах Беларусі.

Акрамя прыведзеных вызначальных фактараў, у першай і другой паловах XX стагоддзя на дэмаграфічнае развіццё Беларусі паўплывалі такія сацыяльныя катастрофы і бедствы, як: I сусветная вайна, грамадзянская вайна і акупацыя, бежанства, эвакуацыя і рээвакуацыя насельніцтва; панэпідэмія грыпу 1918 г.; II сусветная вайна і акупацыя, эвакуацыя і бежанства насельніцтва, гвалтоўны вываз насельніцтва ў Германію, рээвакуацыя; чарнобыльская катастрофа, адсяленне насельніцтва і бежанства.

Гэтыя катаклізмы не змянялі механізмаў дэмаўзнаўлення, але моцна дэфармавалі структуры і працэсы. На іх пераадоленне патрабавалася і патрабуецца шмат часу, намаганняў і сродкаў.

Перад першай сусветнай вайной (1897—1913 гг.) у выніку масавага выезду насельніцтва Беларусі, які ратаваўся ад нястачы ў пошуках лепшай долі, адмоўнае сальда міграцыі склала 0,5 млн. чал.

За час першай сусветнай вайны і інтэрвенцыі насельніцтва Беларусі страціла звыш 1,5 млн. чалавек, з іх 107 тысяч загінула ў баявых дзеяннях, 445 тыс. страчана з-за празмернай смяротнасці ў гэты перыяд, 122 тыс. эмігрывала за мяжу, больш за 400 тыс. бежанцаў не вярнулася ў родныя мясціны, 450 тыс. чалавек склаў недарод (з-за памяншэння нараджальнасці).

За гады другой сусветнай вайны і акупацыі Беларусь страціла ў баявых дзеяннях (на фронце і ў партызанах) 600 тыс. чалавек. Каля 1,7 тыс. мірных жыхароў Беларусі было знішчана фашысцкімі акупантамі. Некаторая частка з іх загінула з-за павышанай смяротнасці, галоўным чынам, з-за эпідэмій, ініцыраваных гітлераўцамі спецыяльна пры сваім адступленні. 380 тыс. чалавек былі гвалтоўна вывезены на работы ў Германію. Прамыя страты ў нараджальнасці склалі толькі за гады вайны 468 тыс. чалавек.

Геапалітычны лёс Беларусі асудзіў яе тэрыторыю на тое, што яна стала адным з галоўных тэатраў ваенных дзеянняў у абедзвюх войнах, а яе дэмаграфічныя страты аказаліся ў разліку на 1000 жыхароў самымі значнымі сярод усіх еўрапейскіх краін.

Уплыў вайны, асабліва другой сусветнай, дэфармаваў на доўгія дзесяцігоддзі ўзростава-полавую структуру насельніцтва. І хоць пакаленні, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў баях другой сусветнай вайны, пайшлі з жыцця або знаходзяцца цяпер у пенсійным узросце, рэха вайны, якое цыклічна паўтараецца і дае аб сабе знаць праз зніжэнне нараджальнасці, змяншэнне колькасці тых, хто ўступае ў працоўнае жыццё, няхай сабе і з усё меншай сілай, наносіць урон дэмаграфічнаму і сацыяльна-эканамічнаму патэнцыялу рэспублікі.

**Нараджальнасць, смяротнасць і натуральны прырост насельніцтва Рэспублікі Беларусь у 1980—1993 гг. (чалавек)**

| Гады | Колькасць насельніцтва на канец года (тыс. чалавек) | Колькасць нарадзіўшыхся (чалавек) | Колькасць памерлых (чалавек) | Натуральны прырост (чалавек) |
|---|---|---|---|---|
| 1980 | 9694,9 | 154432 | 95514 | 58918 |
| 1985 | 10028,4 | 105034 | 105690 | 59344 |
| 1990 | 10260,4 | 142167 | 109582 | 32585 |
| 1991 | 10280,4 | 132045 | 114650 | 17395 |
| 1992 | 10345,7 | 127971 | 116674 | 11297 |
| 1993 | 10367,3 | 173824 | 128544 | -11160 |
| 1994 | 10345,1 | 110834 | 129735 | -18901 |
| **1995** | **10313,1** | **101445** | **133222** | **-317771** |

**Дынаміка колькасці і ўзроставая структура насельніцтва Беларусі ў XX стагоддзі**

| Гады | Колькасць насельніцтва тыс. чал. | Узроставая структура насельніцтва | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Маладзей працаздольнага ўзросту (0—15 год) | Працаздольны ўзрост (16—59, 16—54) | Старэй працаздольнага ўзросту (60 год, 55 год і старэй) |
| 1897 | 6380,0 | 43,1 | 49,4 | 7,5 |
| 1926 | 7776,3 | 40,4 | 51,2 | 8,4 |
| 1939 | 8908,6 | 38,5 | 52,3 | 9,2 |
| 1950 | 7709 | 33,8 | 55,5 | 10,7 |
| 1959 | 8046,7 | 31,3 | 55,2 | 13,5 |
| 1970 | 8999,8 | 30,9 | 52,9 | 16,2 |
| 1979 | 9560,5 | 24,9 | 58,2 | 16,9 |
| 1989 | 10151,9 | 24,5 | 56,0 | 19,5 |
| 1995 | 10297,2 | 23,5 | 55,6 | 20,9 |
| 2016 | 9207,1 | 16,0 | 60,8 | 23,2 |

БЕСПРЭЦЭДЭНТНЫЯ для мірнага часу дэмаграфічныя змены, якія ўзніклі, на мяжы 80—90-х гг. і працягваюцца ў соцыумах краін СНД, выклікаюць самую сур'ёзную трывогу. Гэта ў поўнай меры датычыць і Рэспублікі Беларусь, усе сферы жыццядзейнасці якой знаходзяцца ў найцяжэйшым крызісе, які набыў доўгачасовы характар і мае тэндэнцыю да самастойнай невырашальнасці. Па сутнасці, наш дэмаграфічны стан можна характарызаваць як крызіс, паколькі ён ахапіў усю сферу ўзнаўлення чалавечай папуляцыі Беларусі.

Найбольш непакоіць рэзкае змяншэнне нараджальнасці — у 1,4 раза ў параўнанні з 1990 г. і ў 1,6 раза ў параўнанні з 1985 г. Ужо ў 1992 годзе колькасць народжаных знізілася да колькасці народжаных у 1943 ваенным годзе, калі Беларусь знаходзілася ў акупацыі і пераважная большасць мужчын была на франтах, а агульная колькасць насельніцтва складала на 3,5 млн. чалавек менш, чым у цяперашні час. У 1993 годзе нарадзілася на 8 тысяч чалавек меней, чым у 1943 годзе, у 1994 г. — на 13 тысяч, у 1995 г. — на 24 тысячы меней. Гэта рэакцыя насельніцтва на катастрафічнае зніжэнне жыццёвага ўзроўню, на няўпэўненасць у заўтрашнім дні. У той жа час колькасць памерлых з 1990 па 1995 гг. павялічылася непрапарцыянальна росту насельніцтва. Прытым, павялічылася практычна ва ўсіх узроставых групах — у маладым узросце, сярод працаздольных, сярод старых. У выніку натуральны прырост у 1992 г. у параўнанні з 1985 годам зменшыўся больш чым у пяць разоў, а ў 1993—1995 гг. — стаў адмоўным, бо смяротнасць перавысіла нараджальнасць, г.зн. фактычна рэальнае насельніцтва Беларусі ўступіла ў стан дэпапуляцыі, і калі б не прыток мігрантаў з блізкага замежжа, ужо ў 1993 г. пачалося б скарачэнне яе колькасці. На самай справе, як паказваюць больш тонкія дэмаграфічныя індыкатары, дэмаграфічны патэнцыял тэрытарыяльнага насельніцтва Беларусі не здольны да самаўзнаўлення ўжо з 1986—1987 гадоў.

Нета-каэфіцыент узнаўлення насельніцтва ў нас зараз меншы за той, што існаваў на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў у гарадской мясцовасці, але папаўняўся дэмаграфічным патэнцыялам сяла, стаў меншы і ў сельскай мясцовасці. Сяло сёння ўжо не ў стане аказваць міграцыйнае ўзнаўляльнае падсілкоўванне горада.

З гэтай прычыны мо і не варта кідацца ў паніку: у развітых краінах Захаду (напрыклад, у Італіі, Германіі, Іспаніі) гэтыя каэфіцыенты таксама значна меншыя за тыя, што забяспечваюць фізічнае ўзнаўленне. Але заходнія краіны падышлі да такіх каэфіцыентаў паступова, стварыўшы магутныя ўстойлівыя механізмы — сацыяльныя, эканамічныя, дэмаграфічныя, якія забяспечваюць стабільнасць узнаўлення на пэўным узроўні. У Беларусі ж такой абароны няма, і заўтра гэты каэфіцыент можа ўпасці яшчэ, што будзе азначаць нацыянальную дэмаграфічную катастрофу, якая можа быць каталізатарам незваротнай сацыяльнай дэградацыі і эканамічнага ўпадку.

НАДЗВЫЧАЙ падарваны ў 90-я гады і жыццёвы патэнцыял насельніцтва Беларусі. Працягласць жыцця мужчын, і жанчын хоць і засталася ў 90-я гады крыху больш высокай, чым амаль ва ўсіх краінах СНД, тым не менш значна адстала ад сусветных стандартаў (на мяжы 60—70-х гадоў яна ім адпавядала). У цяперашні час працягласць жыцця мужчын, да прыкладу, у Японіі і Скандынаўскіх краінах складае 75—76 гадоў, жанчын — 81—82 гады. У нас жа адпаведна — 63 і 74 гады.

Сапраўдным бедствам для рэспублікі ў маральным і эканамічным плане з'яўляецца велізарны (каля 10 гадоў) разрыў у працягласці жыцця мужчын і жанчын, велізарнае перавышэнне смяротнасці мужчын над смяротнасцю жанчын у маладым і сярэднім узростах.

Пад сур'ёзнай пагрозай апынулася здароўе народа і яго генафонд. Кумулятыўнае ўздзеянне нягодаў сацыяльна-эканамічнага жыцця, неспрыяльнага вытворчага і прыроднага асяроддзя, наступствы чарнобыльскай катастрофы павялічылі захворваемасць насельніцтва, колькасць псіхічных расстройстваў, забойстваў і самазабойстваў, колькасць наркаманаў і алкаголікаў, колькасць дзяцей з фізічнымі і разумовымі адхіленнямі, што зніжае якасць працоўнага і інтэлектуальнага патэнцыялу рэспублікі, прыводзіць да грамадскай дэградацыі, падрываючы тым самым сацыяльныя і эканамічныя асновы жыццядзейнасці рэспублікі.

Няшчасцем для жанчын рэспублікі з'яўляюцца аборты, якія ў шмат разоў перавышаюць іх колькасць у развітых краінах. Яшчэ вельмі высокая ў нас перынатальная смяротнасць і смяротнасць дзяцей да года, мацярынская смяротнасць пры родах (у некаторых краінах яна практычна адсутнічае) і г.д.

Найвастрэйшы крызіс перажывае сям'я. Крызіс сям'і праяўляецца перш за ўсё ў празмернай колькасці і ўзроўні разводаў, велізарным росце ўнутрысямейных канфліктаў, у немагчымасці мець жаданую колькасць дзяцей з-за матэрыяльнай і жыллёвай незабяспечанасці, у празмерным узроўні дзіцячай злачыннасці. Так, у 1980 г. на кожныя 10 шлюбаў прыпадала 3,2 развода, у 1990 г. іх стала ўжо 3,5, а ў 1992 г. — 5,0, у 1994 г. — 5,9. З ліку разведзеных толькі палавіна ўступае ў паўторны шлюб. Значыць, маштабы адзіноты другой паловы ўвесь час пашыраюцца. Павялічваецца колькасць дзяцей, якія засталіся без аднаго з бацькоў, галоўным чынам бацькі. Бязбацькаўшчына ўсё больш робіцца "нормай" нашага жыцця, як рэкет, карупцыя, СНІД, парнаграфія і г.д. Усё ў большай ступені дзеці і моладзь аказваюцца ў зоне негатыўнага ўплыву і негатыўных арыенціраў і каштоўнасцей. У катастрафічным становішчы апынуліся цэлыя пласты пажылых людзей. У грамадстве ўзрастае разрыў паміж пакаленнямі, які ствараецца нярэдка штучна.

Істотна дэфармавана полаўзроставая структура насельніцтва рэспублікі ў тэрытарыяльным разрэзе: у сельскай мясцовасці ўзнік істотны дэфіцыт жаночага насельніцтва ў маладым працаздольным і рэпрадуктыўным узросце, у гарадах, наадварот, іх лішак; непрапарцыянальная вялікая на сяле ўдзельная вага асоб пенсійнага ўзросту.

З ГОРНУТА ранейшая рассяленская і ўнутраная міграцыйная палітыка і не створана пакуль устойлівая новая. Негатыўныя вынікі ранейшай міграцыйнай эканамічнай палітыкі прывялі да істотных дыспрапорцый у рассяленні насельніцтва. Многія сельскія раёны фактычна бязлюдныя і не ў стане арганізаваць нармальную дзейнасць. У сваю чаргу, узнікшыя ў апошнія гады новыя міграцыйныя плыні і працэсы, будучы часта непрадказальнымі, ускладняюць праблемы жылля і працаўладкавання, уносяць дэструкцыю ў жыццё асобных супольнасцей, выклікаюць сацыяльныя і эканамічныя канфлікты. Хаатычны, некіруемы і дэструктыўны ў многіх выпадках характар набыла міграцыя, асабліва міжнародная.

Часткова зламана ранейшая сістэма занятасці і аплаты працы, сацыяльнай абароны. Новыя сістэмы занятасці і аплаты працы першапачаткова ўзніклі і развіваюцца ў дэфармаваных формах і маюць квазіняўстойлівы характар забеспячэння.

З-за адсутнасці матэрыяльна-тэхнічнага і інфармацыйнага забеспячэння, у выніку парушэння сістэмнасці, пераемнасці, змястоўнасці культура, навука і адукацыя ўсё больш адстаюць ад сусветнага ўзроўню. Пашыраецца прастора іх дэградацыі. Тым самым страчваюцца сацыяльна-духоўныя характарыстыкі, якія забяспечваюць узнаўленне чалавечай папуляцыі ўсё больш высокай якасці.

Па сутнасці сёння можна канстатаваць разбурэнне старой парадыгмы дэмузнаўлення і палітыкі пры адсутнасці новай.

Як ужо было згадана, рэальнай і патэнцыяльнай пагрозай дэмаграфічнай бяспекі Беларусі з'яўляецца абвал нараджальнасці, які адбыўся за апошнія чатыры гады і мае ярка выяўленую тэндэнцыю да далейшага скарачэння. Ён сведчыць, што пераход да аднаго дзіцяці на жанчыну з'яўляецца зусім верагоднай перспектывай. Ужо ў бліжэйшым будучым гэта пагражае велізарнай дэфармацыяй узроставай структуры, што будзе мець цяжкія сацыяльныя і эканамічныя наступствы для развіцця рэспублікі, можа стаць цяжка пераадольнай перашкодай для выхаду не толькі з дэмаграфічнага крызісу.

Сярэдняя колькасць народжаных у разліку на адну жанчыну ў цяперашні час складае 1,3 дзіцяці. Пры ўзроўні, які складае 1,5 дзіцяці на адну жанчыну нават пры захаванні сучаснага ўзроўню смяротнасці (а ён, на жаль, расце), колькасць насельніцтва скарачаецца ўдвая за 53 гады, а пры адным дзіцяці — за 24 гады. Разлікі, выкананыя ў ВЦ Інстытута эканомікі Міністэрства эканомікі РБ, сведчаць, што да 2016 года насельніцтва Беларусі можа скараціцца (пры захаванні сучаснага рэжыму дэмузнаўлення) да 9,2млн. чалавек.

У канцы 80-х гадоў, зыходзячы з існаваўшага ў той час рэжыму ўзнаўлення, прагнозная колькасць насельніцтва павінна была скласці 10,8 млн. чалавек. Значыць, мінус 1,6 млн. чалавек за няпоўныя два дзесяцігоддзі — такі кошт дэмаграфічнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу. Да сярэдзіны XXI ст. колькасць насельніцтва пры захаванні наяўных тэндэнцый паменшыцца да 4—4,5 млн.

*(Працяг на стар. 12)*

Нешта ўспомніць дачка Бэйліна —
І быццам бы паабедала.

•

Ой, не ўсё роўна тое мне.
Праспалі край мой.
Ён у здранцвенні,
Ён у сне,
Ён абакрадзены.
Мой край праспаў душу сваю,
Душа дзесь бродзіць.
Не ўпершыню, не ўпершыню
Душа выходзіць.
Ды застаецца ува мне
Зямля і мова.
Дык хто душу, душу ўвалье?
Ой, не ўсё роўна мне.

## БАЛАГОЛА

Балагола, пане возу,
Ты бааль, калі папросту,
Пан — бааль, а воз — агола,
Пане возу, балагола.
Едзеш позна, едзеш рана,
Едзеш лугамі і барамі,
Каля поля, каля лесу
І спяваеш па-габрэйску,
Па-ўкраінску й беларуску.
На тры мовы азавуцца,
Адгукуцца на тры песні
Тут, удома, на Палессі.
Я таксама еду, еду,
Ды твайго няма ўжо свету.
Ані поля, ані лесу,
Ані слова па-габрэйску,
Па-ўкраінску й беларуску.
Не гукай — не азавуцца.
Еду светам, еду белым,
Ні канца, ні краю бедам.
Злева — гора, справа — гора.
Пасярodку — балагола.
Я між бедамі-агнямі,
Я не ведаю, што з намі
І да чога воз-агола
Прыйдзе ўжо без балагола.
Ды між глуму, ды між здзеку
Не была б я зроду-веку,
Не была б я возу пані,
Калі б струны не спявалі,
Злева — гора, справа — гора,
Пасярodку — балагола.
Балагола пасярodку.
Балагола, мой ты продку...

---

Як бы адзін кашмарны сон.
О Беларусь!
Мой край закляты,
Як знясць
з цябе ліхі праклён?

Як адмаліць грахі нам,
Божа?
За што такі пакутны лёс —
На берагах Дняпра
і Сожа —
Атрута
У слязінках рос.

Малітвы намі
ўсе забыты
І безгалоснасць у званіц.
Зноў п'е народ
мой працавіты
Ваду з атручаных крыніц.

Няўжо забудзецца,
сатрэцца
Твая мяжа,
Твае імя,
Па кроплі боль
твой разальецца,
Застудзіць душы зноў зіма.

І нам,
прывыклым да няволі,
За ўсе адплаціцца грахі —
І згіне ў свеце
Наша доля,
Як белы бусел
са страхі.

*г. Мінск*

Проза

*Мар'ян ВІЖ*



# ХОД КАНЁМ

АПАВЯДАННЕ

Прафесар Жвір ведаў, што ад наступнага дня чакаць трэба шмат, бо заўтра якраз вырашалася: прызначаць яго начальнікам Галоўнага ўпраўлення стратэгічных даследаванняў, скарочана — Галустрада, ці не. Зрэшты, Антон Антонавіч мог па-ранейшаму спакойна выкладаць у ВНУ, працягваючы друкаваць свае бліскучыя артыкулы ў спецыяльных выданнях, да чаго вельмі ўважліва ставіліся ў многіх краінах. Жвір мог, нарэшце, паехаць на семестр-другі чытаць лекцыі за мяжу, куды яго настойліва запрашалі славутыя навуковыя цэнтры, гарантуючы салідныя ганарары.

Неаслабная цікавасць замежжа да Жвіра — не выпадковасць. Ён належаў да рэдкіх цяпер практыкаў-навукоўцаў, якія, значна апярэджваючы час, працавалі на сумежжы роднасных накірункаў фізікі, хіміі і малекулярнай механікі, абапіраючыся на прынцыпова новыя, імі знойдзеныя, унікальныя тэхналогіі эксперыментаў і доследаў. Вядома, сур'ёзных адкрыццяў гэта не абяцала, не давала адразу і практычнай карысці. Але часта па-наватарску ўвасаблялася ў вытворчасці, непазбежна выклікала ланцуговую рэакцыю, здольную неўзабаве пераманіць аблічча цэлых прамысловых галін.

Залішне гаварыць, мабыць, што на радзіме навуковая дзейнасць Жвіра ні прызнання, ні асцярожнага разумення не сустракала. Найперш таму, што ляжала яна ў вымярэннях, недаступных нават самым дасведчаным кансультантам начальства. Але Антон Антонавіч — чалавек разумны і сціплы — лічыў гэта з'явай нармальнай і ні на кога не крыўдзіўся.

Праўда, раней мелі месца асобныя выпадкі, калі высокае кіраўніцтва ўсе-ткі ўспамінала пра Жвіра. Так, у сярэдзіне сямідзесятых яно тройчы выклікала Антона Антонавіча, свежаспечанага трыццацігадовага доктара тэхнічных навук, каб той тэрмінова давёў да ладу заходнія кандыцыянеры "Марскі клімат". Прафесар нечакана тады аказаўся ў пікантным становішчы: знаёмства з дакументацыяй выявіла, што ў аснове імпартнай устаноўкі — яго ўласныя ідэі і вынаходствы, апублікаваныя летась у акадэмічным часопісе, на якія аўтар паспеў атрымаць дзяржаўны патэнт. Жвір, зразумела, высновамі з начальствам не падзяліўся. Але на добрай англійскай мове ён далікатна выказаў замежным вытворцам сваё фармальнае абурэнне. Праз месяц з Масквы прыляцеў прадстаўнік вядомай нямецкай кампаніі, прапанаваў Антону Антонавічу ўступіць фірме аўтарскія правы за значную суму ў цвёрдай валюце. Без асаблівых ваганняў прафесар згадзіўся, бо спадзявацца ўбачыць дома плён сваёй працы яму не выпадала зусім. На развітанне фірмач пажадаў поспехаў, абяцаў іх кантакты пакінуць у поўным сакрэце, запэўніў, што неўзабаве паведаміць нумар рахунка прафесара ў надзейным банку і банкаўскі код.

Дарэчы, замежныя накапленні Жвір збіраўся скарыстаць цалкам на сваю зорную мэту — глабальны тэхналагічны праект, які дасць цэлае мора амаль бясплатнай электрычнай энергіі. Але не выклікала сумнення: яго — смелага правінцыйнага вынаходніка без квяцістага тытула — літаральна ператвораць у пыл магутныя босы з усесаюзных энергаканцэрнаў разам з дырэктарскай рацццю сабе падуладных галіновых навук. Да і ўвогуле ягоны праект — надзіва арыгінальны і просты, як усё сапраўды геніяльнае, — падыходзіў найлепш для кампактнага эканамічнага рэгіёна на заходніх абсягах СССР... Два словы пра сутнасць ідэі. Жвір, відаць, першым у свеце даўмеўся, што на магістральных газаправодах, дзе ўнутраны ціск звычайна перавышае пяцьдзесят атмасфер, штохвілінна губляецца безліч дынамічнай энергіі. Таму мэтазгодна праз пэўныя інтэрвалы ўрэзаць у сталёвыя трубы газавыя турбіны, з'яднаныя з генератарамі, якія бесперапынна пачнуць выпрацоўваць ток. Без спальвання нафты, мазуту і вугалю, без пачварных АЭС! Увесь працэс Жвір цыклічна пралічыў па вытворчых вузлах, падрыхтаваў рабочыя чарцяжы.

Калі Саюз развалiўся і кошт чужых энерганосьбітаў рэзка падскочыў, у Жвіра, як быццам, стварыліся ўмовы для ўвасаблення сваёй галоўнай задумы. Але прафесар упарта маўчаў, прадчуваючы, што ў барацьбе з невуцтвам, з раўнадушшам чыноўнікаў, з бясконцымі бюракратычнымі перашкодамі яму для выканання намечанага не раз давядзецца рабіць, як кажуць, хады канём. Уплывовая ж роля начальніка Галустрада, безумоўна, наблізіла б Антона Антонавіча да мары жыцця.

...Назаўтра, ідучы на прызначаную сустрэчу, Жвір разумеў: з усіх прэтэндэнтаў выбар спынілі, здаецца, менавіта на ім. Але каб тут стаяла ўжо завяршальная кропка, яго нікуды не выклікалі б... Хуткасны ліфт бясшумна даставіў прафесара на дзесяты паверх. Жвір апынуўся ў строгай прыёмнай, абсталяванай функцыянальнай офіснай мэбляй, на цёмным фоне якой свяціўся экран камп'ютэра апошняй мадэлі. Гаспадар кабінета — высокі, відны мужчына ў акулярах, відаць, аднагодак прафесара, — ветліва прывітаў, клапатліва ўсадзіў госця ў крэсла. Сам звыкла пакалдаваў над клавіятурай працэсара, павярнуў дысплей да сябе, каб яшчэ раз азнаёміцца з назапашанай інфармацыяй.

— Так, так, — падсумаваў ён услых вынікі і рашуча сказаў: — Мы не супраць бачыць вас кіраўніком Галустрада, рэпутацыя ў вас бездакорная. Хоць, заўважу, ёсць акалічнасці, якія нас насцярожваюць. Дамовімся: я пастаўлю вам зараз шэраг пытанняў. Калі адказы нас задаволяць, калі я вам паверу, то націсну на гэтую вось кантрольную клавішу, у памяць машыны імгненна ўвядзецца адзнака, што кандыдатура зацверджана. Затым я вас павіншую, а ў прыёмнай адразу атрымаеце ксеракс-загад аб сваім прызначэнні, які рэферэнт засведчыць пячаткай. Як бачыце, усё звышсучасна, аператыўна, адкрыта... Але, падкрэслю, гаварыць вы абавязаны чыстую праўду, як на споведзі...

Па-першае, чаму вы ўпарта не хочаце чытаць за мяжой валютныя лекцыі? Чаму вы, па-другое, двойчы адмаўляліся перайсці працаваць у прэзідыум акадэміі, хоць ведалі, што пасада вам гарантуе лаўрэацкае званне? Чаму вы замест зайздроснай акадэмічнай кар'еры раптам пачалі выкладаць у ВНУ? І апошняе. Мы з вамі, здаецца, ужо сустракаліся, ды ніяк не згадаю: дзе і калі. Зрэшты, гэта асаблівага значэнне не мае. Я вас не прыспешваю, добра падумайце. Становішча зараз у вас — што ў турнірнага шахматыста, якому трэба зрабіць сур'ёзны, адказны ход...

Запрошаны паспеў занатаваць у блакноце пытанні і цяпер ручкай вадзіў пад радкамі, прыкідваючы, як тут лепш падступіцца. За лічаныя хвіліны яму было неабходна знайсці нетрафарэтнае, нечаканае нават для самога сябе тое адзінае-выйгрышнае рашэнне, якое ў побыце называецца "ход канём".

"Пачнём, як у анекдоце, з канца, — разважаў Жвір, — зараз на вяршыні ўлады — новыя людзі. Але пры найлепшых намерах і мэтах наўрад ці яны абыходзяцца без чыноўніцтва застойных часоў, бо служба ў апаратных структурах вымагае шматгадовай селекцыі. І гэты, верагодна, начальнік — з былых: у кабінеце трымаецца, як рыбка ў вадзе. З колішнім кіраўніцтвам я кантактаваў непасрэдна толькі ў сярэдзіне сямідзесятых, ажыўляючы свой "Марскі клімат"...

Прафесар дапытліва ўзняў вочы, спрабуючы скінуць з аблічча гаспадара кабінета прыкладна столькі гадкоў. І дзіва: у чалавеку насупраць ён беспамылкова пазнаў падгалістага, рухавага загадчыка сектара ўстановы, якая аплачвала прафесару наладку машын. Антон Антонавіч нават успомніў, што чалавек гэты тады асабіста прымаў работу ў новым цэнтры для моладзі. Такім чынам Жвір высветліў, з кім мае справу. Таму варта неабачліва тут заікнуцца: маўляў, я адмовіўся ад акадэмічнай пасады, бо марыў стварыць уласную навуковую школу, куды адбяру сваіх самых здольных студэнтаў, то і кропелькі разумення ў кабінеце ён не знойдзе ані. А каб прафесар рызыкнуў сёе-тое паведаміць пра свой энергетычны праект, то, бясспрэчна, начальнік яго палічыў бы за пустазвоннага, невылечнага пражэкцёра. "Значыць, выйсце — трымацца так, каб мае ўчынкі тут падаліся поўнасцю зразумелымі. Начальнік па кадрах — з былых. Гэтым сказана ўсё. Не ўвядуць мяне ў зман электронныя дэкарацыі, — вырашыў Жвір, — эх, была-не была!"

— Мы з вамі знаёмы дваццаць гадоў, — кінуўся ў наступ прафесар. — Вы падпісвалі акт прыёмкі "Марскога клімату" ў будынку міжнароднага маладзёжнага цэнтра, дзе я выпраўляў нязначныя недаробкі мантажнікаў...

— Паз-на-ю, паз-на-ю! — Расцягваючы словы, узрадаваўся гаспадар кабінета. Прыжмурыўшы вочы, ён з асалодай сказаў: — Якія былі гады: дзівосная казка! Успомню нашы былыя застоллі, кампаніі, вірліва-дурманнае донжуанства — аж млосна робіцца. Ды і вы, прафесар, былі, памятаю, не промах. Дарэчы, яшчэ не забыў, як вы зніклі з банкета, прысвечанага адкрыццю цэнтра, з адной фігурнай балгаркай, — злёгку паўшчуваў начальнік запрошанага і якраз гэтым міжвольна падказаў госцю акрэсленую лінію ягоных далейшых паводзін.

Да слова, Антон Антонавіч на згаданым банкеце адсутнічаў, гаспадар кабінета з некім банальна яго пераблытаў. Ды не праспаць жа шчаслівы выпадак, які сам ідзе ў рукі! Таму прафесар, як мог, напусціў на твар збянтэжаную вінаватасць. "Нічога, даражэнькі, нічога! Былі калісьці і мы рысакамі!" — азартна падбадзёрыў начальнік, але хутка авалодаў сабой і загадаў афіцыйна: "Ну а цяпер, шаноўны, выкладвайце самае-самае: прычыны сваіх больш чым дзіўных адмоў ад імклівай акадэмічнай кар'еры, ад замежных валютных лекцый і гэтак далей. Чакаю!"

— Тут — тонкая справа, нават інтымная, — даверлівым шэптам азваўся запрошаны. — Не ведаю, з чаго пачаць, як сутнасць далікатна і зграбна падаць...

— Рэж, калі ласка, праўду-матку ў лоб, я разбяруся, бо вопыт маю, — зноў ажывіўся начальнік, нервова паціраючы рукі ў прадчуванні, пэўна ж, смажаных фактаў і факцікаў, пакінутых, як цяпер кажуць, за кадрам.

— Пачну з найбольш простага, — гучна сказаў прафесар. — Гадоў пятнаццаць ужо я зусім нікуды не езджу. Нават сімпозіумы, навуковыя канферэнцыі ігнарую, пасылаючы туды толькі тэзісы выступленняў, бо, як вам сказаць, я не схільны... давяраць жонцы. Якія ўжо тут вандроўкі!

— Справа вядомая, — пагадзіўся начальнік, — так званы бальзакаўскі ўзрост. Павер, я сам часта шкадую, што жонцы маёй нядаўна стукнула сорак, а не пяцьдзесят з гакам... Калі ласка, далей, уважліва слухаю.

— Мушу таксама паведаміць, — натужна працягваў Жвір, — што прыкладна з той самай пары я ўвесь неяк раптоўна звяў, стаў увогуле губляць інтарэс да жанчын... Дактары мне параілі знайсці такое месца работы, дзе б вакол з дня на дзень таўкліся дзяўчаты, маладыя жанчыны. У акадэміі, самі ведаеце, адны лысыя, сівыя дзядкі, у любой ВНУ — зусім іншае...

— Дапамагло?! — зацікаўлена перабіў гаспадар кабінета, нецярпліва прыўзняўшыся ад хвалявання.

— Вынікі фантастычныя, пераплюнулі ўсе чаканні! — катэгарычна запэўніў прафесар. Для вернасці ён у дадатак саладжава прычмокнуў і патрос кулаком з узнятым вялікім пальцам.

— Бачу, ты, Антон, зух яшчэ той, чыстая Сіняя Барада. Але ж мы ўсе грэшныя. Мне казалі, што ў інстытутах цяпер студэнткі, лабаранткі і маладыя выкладчыцы складаюць сакрэтны гарэм прафесуры. А я, душа кабінетная, яшчэ чуткам не верыў. Дыму без агню не бывае, няма ўвогуле нічога таемнага, што б не стала, урэшце, явай!

Жвір тут не вытрымаў, ледзь не сарваўся, тузануўся, забыўшыся на сцэнарый, абурана запярэчыць. Але начальнік рашуча заматаў галавой: "Не, не! Не трэба нам падрабязнасцей: сыты па вушы эратычным смакоццем замежных фільмаў, запісаных на касеты... Віншую, паважаны таварыш, з заслужаным прызначэннем!".

Калі дзверы за прафесарам зачыніліся, начальнік па кадрах са злосцю рвануў штэпсель блока электроннага тэлефона, не без падстаў баючыся, што гэта элегантная штучка абсталявана жучкамі для падслухоўвання. Ён нават незадаволена фыркнуў, з варожасцю плюнуў на блок. Затым пасміхнуўся, загадкава падміргнуў сам сабе, дастаў з шуфляды апарат іншы — стары, абабіты, з патрэсканым нумарным дыскам, які ўжо доўга разам з гаспадаром падарожнічаў па кіруючых кабінетах і нават бездакорна служыў яму талісманам. Начальнік рашуча ўставіў вілку ў разетку, звыкла набраў па памяці нумар, зрабіў аператыўную справаздачу:

— Я зацвердзіў таварыша Жвіра, бо даўно асабіста ведаю прэтэндэнта... Так, так, яшчэ з добрай памяці былых нашых зорна-застойных часоў. Ён, адным словам, наш чалавек, амаль на ўсе сто. Зігзагі ж у анкеце прафесара тлумачацца тым, што ён, мякка кажучы, пamешаны на спадніцах, вар'яцее, калі хочаце, проста ад баб... Так, так, згодны, гэта не грэх, а бязвінная слабасць, якая, дарэчы, на ўсякі выпадак нам дазваляе лёгка назбіраць на яго гару скандальнага кампрамату. Таму знешняе назіранне за ім пэўны час няхай застаецца. Я з кім трэба сёння дамоўлюся. Жадаю вам поспехаў, чакаю, як звычайна, загадаў...

Антон Антонавіч, зразумела, тэлефоннай размовы не чуў. Неяк апатычна атрымаў у прыёмнай загад аб сваім прызначэнні і толькі ў ліфце ўздыхнуў, нарэшце, з палёгкай: першы "ход канём" ён, здаецца, зрабіў.

## ЯК ВЫНІК ПЛЁННАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

**З 28 кастрычніка па 4 лістапада ў Дольнай зале Чырвонага касцёла (г. Мінск) экспанавалася выстава пяці маладых мастачак — Алены Бараноўскай, Ксені Бяляевай, Марты Шматавай, Таццяны Герасімовіч і Алены Шлегель.**

**Былі прадстаўлены творы, якія адлюстроўваюць накірункі індывідуальнага пошуку аўтараў. Менавіта акцэнт на творчай адметнасці кожнага мастака стаў галоўным эстэтычным зместам экспазіцыі. Выстава была наладжана новай грамадскай арганізацыяй — творчым аб'яднаннем "Тэатральная ліга", якая была створана пры падтрымцы камерцыйных структур і грамадскіх арганізацый. Адна з задач "Тэатральнай лігі" — прапаганда і падтрымка мастацтва на розных узроўнях.**

**Падобная спроба кансалідацыі творчых сіл, бясспрэчна, заслугоўвае ўвагі. Ужо хаця б таму, што стварае аптымістычны прэцэдэнт плённага супрацоўніцтва.**

## "ЧЫРВОНАЯ ШАПАЧКА"... ДЛЯ ЛАБАРАТОРЫІ

**"Беларускія лялечнікі — яднайцеся!" — дэвіз лабараторыі тэатральнага мастацтва, створанай на падставе Дзяржаўнага тэатра лялек і падтрыманай Міністэрствам культуры.**

**Адкрыў ды прадставіў лабараторыю спектакль-опера Магілёўскага абласнога тэатра лялек "Чырвоная шапачка" ў пастаноўцы А. Жугжды, які адбыўся 25 лістапада ў будынку Дзяржаўнага лялечнага тэатра.**

**Нетрадыцыйная форма пастаноўкі казкі Ш. Перо прадыктавана жаданнем рэжысёра пазнаёміць маленькага гледача з жанрам оперы (аўтар музыкі П. Кандрусевіч).**

**Пачарговая змена сцэн нагадвае традыцыйную катрынку. Але вулічнага апавядальніка з малпачкай замяняюць дзве пары канцэртных антрэпрэнёраў і антрэпрэнёрак — такім чынам у спектаклі з'яўляецца і пародыя на высокі оперны жанр.**

**Фінал казкі, паводле самога аўтара, атрымаўся сумным. Плачуць на авансцэне антрэпрэнёры, сумныя сядзяць гледачы. І акцёры, паводле рэжысёра, вырашылі паказаць шчаслівы фінал. Бабулін сябра дрывасек выратоўвае гераінь, дзёрзка праглынутых ваўком, і жэніцца з бабуляй. Усе радасныя, усе святкуюць, а з залы чуюцца крыкі: "Брава! Біс!" Зусім як у сапраўдным оперным тэатры.**

**Лабараторыя працягне сваю работу і ў хуткім часе чакаецца прыезд гомельскіх лялечнікаў.**

**Святлана ПАЗНЯК**

## ВЫСТАВЫ Ў ПОЛАЦКУ

**У кастрычніку ў Полацкім гісторыка-культурным запаведніку адчыніліся дзве мастацкія выставы.**

**Выставачная зала Музея беларускага кнігадрукавання прапанавала чарговую выставу шрыфту і каліграфіі — Літарт-96.**

**Яе ініцыятарам выступае прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў Павел Афанасьевіч Семчанка, яго вучні і калегі.**

**На выставе прадстаўлены работы 29 мастакоў — вядучых майстроў беларускай графікі, такіх, як У. Басалыга, А. Кашкурэвіч, П. Семчанка, а таксама сённяшніх студэнтаў БелАМа Ю. Бокай, У. Кругліка і інш. Свае працы прадставілі не толькі мастакі, для якіх каліграфія і шрыфт з'яўляюцца асновай творчасці, але і мастакі станковага жывапісу — М. Будавей, У. Васюк, В. Паўлавец, С. Сялецкі.**

**Акрамя мінскіх майстроў каліграфіі, у выставе прынялі ўдзел і полацкія мастакі — М. Круглікава, С. Цімохаў, І. Куржалаў.**

**Працы, прадстаўленыя на выставе, разнастайныя: ад спрошчана-віртуознага шрыфту і росчырку да філіграннага каліграфічнага малюнка і сучаснай камп'ютэрнай графікі.**

**Невыпадкова гэтыя выставы сталі традыцыйнымі на зямлі Ф. Скарыны. Мастацтва літары — старажытнае мастацтва, і выява, змешчаная на плакаце — пёрка, якое прарастае ў папараць, з'яўляецца сімвалам непарыўнасці жыцця і традыцый.**

**У мастацкім салоне адчынена персанальная выстава батыка і габелена наваполацкай мастачкі Таццяны Козік.**

**На ёй мастачка прадставіла свае новыя творы, якія вельмі ўдала ілюструюць вершы Алеся Аркуша. І зноў розныя віды мастацтва выступаюць разам. Пранікнёныя, узнёслыя вершы вельмі стасуюцца з чароўнымі батыкамі і габеленамі.**

**Н. КАРЖЫЦКАЯ,**
**загадчык аддзела выяўленчага мастацтва ПГКЗ**



# НА ТВОРЧЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

Мінулым летам у Гродне меўся адбыцца міжнародны мастацкі плэнер, але так і не адбыўся. Здаецца, і сродкі былі ў Міністэрства культуры, і першы намеснік міністра культуры спадар У. Рылатка наведваў горад над Нёманам, сустракаўся з кіраўніцтвам, але мясцовай ініцыятывы яўна не хапіла. Гродзенскае аддзяленне Саюза мастакоў таксама не вельмі актыўнічала, каб неяк творча вызначыць сваё месца ў арганізацыі і падрыхтоўцы свята мастацтва. Аўтар гэтых радкоў (між іншым, быў сябрам аргкамітэта па сувязі са СМІ), нягледзячы на тое, што тэарэтычна прыгожая ідэя не рэалізавалася, рашаецца ўсё ж прааналізаваць сітуацыю на чыста тэарэтычным узроўні.

Назва імпрэзы была падабрана вельмі "гродзенская" — "Ля Каложы". Гэта азначала — на пагорку ля першага мураванага храма Панямоння, якому больш чым 700 гадоў. Ініцыятарамі мастацкай сустрэчы былі маладыя гродзенскія графікі, скульптары, жывапісцы. Але пленэр не прысвячаўся пошукам візантыйскай спадчыны, ён ахопліваў гісторыю і сучаснасць горада, які можа натхняць на самыя разнастайныя творчыя эксперыменты. Гродна нават правакуе на пошукі living рознакірункавага характару, бо сам горад, яго прыроднае і гістарычнае асяроддзе вельмі неардынарныя. Архітэктура розных эпох і канфесій, пагоркавы ландшафт, безліч вузкіх вулак. Усё захавалася, у той час як у іншых мясцовасцях Беларусі часта зяе пустка замест былой каларытнасці архітэктурнага ландшафту. І верылася, што горад, які ляжыць на скрыжаванні розных традыцый, культур, мастацкіх стыляў, возьме рэванш за пэўную недасведчанасць і пасіўнасць адказных за справу гарадзенцаў. На жаль, не атрымалася.



*Галерэя "У майстра". Адкрыццё выставы С. Асапрылкі. 1995.*

Зрэшты, гродзенцы не такія ўжо і закаранелыя дамаседы. Каб пра іх не забывалі, яны вырашылі прадэманстраваць свае мастацкія здабыткі ў мінскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў. Выязная выстава пад назовам "Мастакі Панямоння" поспеху асаблівага, аднак, не мела — па аб'ектыўных прычынах. Усё тая ж знаёмая непадрыхтаванасць для прадстаўнічай прэзентацыі. Нельга, напрыклад, фарміраваць аддзел дэкаратыўнага мастацтва, выстаўляючы толькі вырабы мастакоў бярозаўскага шклозавода "Нёман". Пры усёй павазе да старэйшых яго творцаў Г.Мягковай і У. Мурахвера, іх таленавітых калег, усё ж толькі адным відам мастацтва не прадставішся. Ёсць жа на Гродзеншчыне і майстры па метале, ёсць керамісты, тэкстыльшчыкі, пра якіх проста забыліся. А керамікай, дарэчы, выдатнейшым чынам займаецца адзін з вядомых гродзенскіх скульптараў У. Церабун, выстаўляючы яе перыядычна то ў Варшаве, то ў Ростаку. Мабыць, проста не зайшлі арганізатары выставы ў яго майстэрню, як і ў майстэрні многіх іншых мастакоў Панямоння, дзе творчы працэс не спыняецца.

Дарэчы, легендарны перыяд мінулых дзесяцігоддзяў, калі мастакі-гарадзенцы мелі непадалёк ад цэнтра горада вялікую камунальную жылплошчу — агульныя вытворчыя майстэрні, — скончыўся. Вялікі будынак былой сінагогі вярнулі вернікам, а творчыя майстэрні перабазіраваліся ў колішнія воданапорныя вежы. Там "шматгранных" пакоях (бо вежы — васьмікутныя) пачаўся новы перыяд мастацкага існавання, пераважна для маладзейшых, адносна нядаўніх выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў. Трэба спадзявацца, што іх будучыня — творчанапорная, свежаструменная — абудзіць Панямонне.

Але на памянёнай выставе пра такія прагнозы казаць было рана. Шмат выпадковых, нават кічавых прац ці проста салонных. Вельмі непераканаўча выглядаў і "польскі куток" экспазіцыі. У Гродне — неблагая па арганізацыі сядзіба Саюза палякаў Беларусі, ёсць і свае мастацкія кадры: С. Кічко, выпускнік Віцебскага мастацка-графічнага факультэта, В. Даноўскі, выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў і інш. Але нейкай прыкметнай асветніцкай, стылістычнай тэндэнцыі не склалася. Шкада, бо повязі Гродзешчыны з польскім мастацтвам маглі б даць вялікі плён.

Лідэры экспазіцыі — Юры Якавенка, Сяргей Грыневіч разам з Вольгай Загнетавай, не чакаючы кастрычніцкай выставы, ужо ў чэрвені гэтага года паказалі свае працы ў мінскай галерэі "Жылбел" пад прыгожым дэвізам "Інспірацыя". Там больш рэльефна абазначылася іх жаданне вынайсці незалежны творчы кірунак, каб сфармуляваць свае самабытныя аўтарскія адносіны і да метафарычнага зместу, і да неардынарнай выяўленчай формы. Тут жа ім не хапала падтрымкі аднадумцаў. Халодныя абстрактныя стылізацыі С. Асапрылкі, на жаль, не вабілі асаблівай навізной. А пачатак быў такі рашучы для 80-х гг.: развітацца з акадэмізмам і перайсці да жывапіснага мінімалізму, дзе толькі адзіны выяўленчы элемент — абстрагаваныя геаметрычныя плоскасці. Не хапае рашучасці пайсці далей дасягнутага ў пейзажных працах у М. Бандарчука. Пасля ўсходніх горных падарожжаў ён знайшоў мінімальныя сродкі для перадачы прасветленай нейкай "дыстыляванай" прасторы, але яе неабходна вобразна насычаць. Адчувалася адсутнасць на выставе і жывапісных метафар У. Голуба, аднаго з ініцыятараў першых пленэраў рэспубліканскага характару ў Гродні на пачатку 90-х гг. Яўна не даставала графічных, жывапісных вобразаў і самога Гродна з Нёманам, пра што так шмат можна выказаць у рознай алегарычнай і рэалістычнай форме. Так што цяжка рабіць нейкія падсумаванні і даваць настаўленні.

Аднак у Гродне не заціхае духоўнае жыццё, і на гэтым трэба акцэнтаваць зараз увагу. Склалася тонка-інтэлектуальнае асяроддзе,



*У. Церабун. З цыкла "Ракурс". 1993.*

дзе сыходзяцца творчыя інтарэсы і незалежнай літаратуры, і свабоднага мастацтва. Вернікі розных канфесій, семінарысты гуртуюцца ў храмах, дзеячы культуры, не абмінаючы храмаў, цягнуцца ў майстэрні, у галерэі да сяброў-аднадумцаў. У. Церабун, адзін з лепшых арганізатараў самых розных гродзенскіх выстаў, прыступіў да працы над стварэннем самай буйной у горадзе галерэі, што мае быць цэнтрам для экспазіцый, сустрэч, семінараў. Ёсць сродкі на рэстаўрацыю і рамонт будынка, у дадатак яго "Артгалерэя" ладзіць выставы і продаж мастацкіх твораў. Утульны мастацкі куток у цэнтры старога горада ператварыла з былой крамы "Палітплакат" А. Пілічава. Зараз там месца для групавых і персанальных выстаў, хоць усё адбываецца на лічаных метрах плошчы. Ды яшчэ адбываюцца пры гэтым вечары музыкі і паэзіі. Зусім нядаўна адчыніла свае дзверы галерэя "У Тызенгаўза" — літаральна пад гістарычным будынкам, у сутарэнні (паўпадвальным памяшканні), дзе калісьці праводзілі свае рэпетыцыі акцёры першай балетнай трупы ў былой Рэчы Паспалітай. Антоні Тызенгаўз, каралеўскі функцыянер XVIII ст., марыў пераўтварыць горад у супер-асяродак прамысловасці і мастацкага рамяства.

На рамантычнай ноце можна і завяршыць гэты гарадзенскі агляд з мінскай адлегласці. У горадзе над Нёманам ёсць ужо ўласныя студэнты-мастакі, што вучацца ў Гродзенскім універсітэце. Больш юныя рыхтуюцца ў студыях Г. Мазурава і В. Волах, у школе мастацтваў. Неўзабаве новае пакаленне далучыцца да самастойнага мастацкага жыцця са сваімі ідэямі і праектамі. Дарэчы, як гродзенцы пачынаюць нешта новае рабіць, вакол адразу збіраюцца зацікаўленыя з далёкага і блізкага свету, нат нечакана для саміх сябе. Праўда, усё абыходзіцца без залішняй помпы, феерверкаў, але з вынікам, які застаецца ў памяці. Відаць, у Гродне так і не адбудзецца плэнера, а натуральным чынам народзіцца іншага роду падзея творчага жыцця, што надасць гораду даўно належны яму статус асяродка творчых кантактаў, сувязей і эксперыментаў.

**Яўген ШУНЕЙКА**



*Вядомы акцёр Я. Леанідаў праездам з Нямеччыны ў Расію прыпыніўся ў Гродне на Дзень майстроў.*

НАРАДЗІЎСЯ ў 1925 годзе ў мястэчку Пухавічы Мінскай вобласці, у сялянскай сям'і. У 1941-ым скончыў 8 класаў. І ліпеня 1941 года Пухавічы занялі немцы і прабылі тут роўна тры гады, да І ліпеня 1944-га. Прыкладна з 1943 года ў Пухавічах дзейнічаў нямецкі аэрадром цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў. Мой настаўнік Леў Іванавіч Пілатовіч, вызваліўшыся з нямецкага палону, наладзіў сувязь з партызанскім атрадам імя Будзённага брыгады імя Кірава. Ён прыцягнуў мяне і майго равесніка Мікалая Рамановіча для работы ў якасці партызанскага сувязнога. Мы распаўсюджвалі ў гарнізоне партызанскія газеты і лістоўкі, перадавалі партызанам звесткі пра гарнізон, планы размяшчэння зенітных батарэй і бомбавых складаў на аэрадроме, закідвалі ў кузавы аўтамашын міны замаруджанага дзеяння.

7 ліпеня 1944 года, пасля вызвалення Пухавіч, неўзабаве я быў мабілізаваны ў армію і 27 кастрычніка трапіў на фронт — ужо ў Польшчы, на Нараўскі плацдарм. 28 кастрычніка ў час наступлення быў кантужаны, праляжаў у армейскім шпіталі аж да 25 студзеня 1945 года. Пасля зноў трапіў на фронт — ва Усходнюю Прусію, там і праваяваў да канца вайны.

Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе працаваў кладаўшчыком у гармоннай арцелі, рабочым у лясгасе, пасля скончыў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча і амаль 20 гадоў працаваў настаўнікам музыкі і спеваў у Пухавіцкай СШ. У 1980 годзе пайшоў на пенсію па стане здароўя — як інвалід вайны, у 55 гадоў.

Займаўся літаратурнай працай. Пісаў пераважна гумарыстычныя апавяданні. Каля 30 з іх былі надрукаваны ў "Вожыку", "Маладосці", "Беларусі". Пісаў і вершы, яны друкаваліся ў раённай газеце.

Перажытае ў гады акупацыі і на фронце пакінула незабыўныя ўражанні. Пасля выхаду на пенсію я пачаў працаваць над раманам на вайсковую тэму. Першую частку яго перадаў у рэдакцыю часопіса "Маладосць".

Але хацелася расказаць пра вайну без "дадумвання". Вось і ўзяўся за цыкл нарысаў. У іх няма нічога выдуманага. Адно толькі крыху зменены прозвішчы жыхароў вёскі Пухавічы, бо, можа, некаторым родзічам будзе не зусім прыемна ўведаць пра сваяка нейкую падрабязнасць. Імёны ж "няпухавіцкія" пакінуты без змяненняў.

Пра вайну напісана шмат. Я маю на ўвазе не мастацкую літаратуру, якая часта адлюстроўвае фантазію і ўяўленне аб вайне аўтара, а мемуары і ўспаміны ўдзельнікаў вайны. Гэтую літаратуру стварылі, у асноўным, начальнікі. Няма, пэўна, такога камандуючага арміяй, а то і дывізіяй, камандзіра партызанскай брыгады, ці нават атрада, які б не надрукаваў сваіх мемуараў. Усе гэтыя творы зроблены на адзін капыл. Кожны расказвае, як удала і таленавіта выконваў пастаўленыя задачы, якія страты наносіла яго часць ворагу. І хоць бы адзін сказаў, колькі ў яго часці палягло ўласных салдатаў. Нават свае пралікі і памылкі выдаюцца за поспехі і ўдачы. Напрыклад, Генеральны штаб не сумеў да пачатку вайны перакінуць да граніцы дадатковыя часці. Але гэта і добра, сцвярджае ў сваіх успамінах начальнік гэтага штаба маршал Жукаў, а то б іх разграмілі, як і тыя часці, што там былі. Выходзіць, лепш было б наогул адвесці ўсе войскі ў тыл.

Адзін знакаміты чалавек сказаў, што ўсю праўду аб вайне ведае толькі народ. Ён заклікаў удзельнікаў вайны напісаць свае праўдзівыя ўспаміны аб ёй. Але ж не кожны хоча, можа і ўмее гэта зрабіць. Ды ў часы панавання КПСС усю праўду аб вайне сказаць было немагчыма, а гаварыць няпраўду аб самым жудасным у жыцці чалавецтва — гэта злачынства.

Цяпер, здаецца, можна гаварыць праўду. Але многіх удзельнікаў вайны ўжо няма. Тым, хто яшчэ застаўся, адкладваць гэту справу надалей нельга. Простыя салдаты ведаюць пра вайну такое, што і не снілася пісьменнікам. Вайна — гэта не толькі страляніна, бамбёжкі, атакі, але яшчэ здзек і насілле над чалавекам, над яго воляй, талентам, пачуццём з боку жорсткіх, бяздушных людзей, а то і сапраўдных злачынцаў. Не ведаю, ці хопіць у мяне часу і здароўя, каб расказаць пра тое, што перажыў і бачыў у час вайны. Але пачнём, благаславіўшыся.

**АЎТАР**

Іван ПАДБЯРЭЖСКІ

# АСОБНАЯ МОТАМЫЛІЧНАЯ



Спрэку-веку наша мястэчка называлася Пухо́вічы. Немцы ў вайну перахрысцілі яго на Пу́хавічы, ды неяк так яно і засталося. Пухавіцкім мужчынам у вайну пашчасціла. У армію іх не забралі. У ваенкамат, праўда, выклікалі, арганізавалі калону і накіравалі ў Мінск. Ля Дукоры, гэта на паўдарозе, вайскоўцы, што адступалі, спынілі яе.

— Вы куды, малахольныя? У Мінску ўжо немцы!

Вярнуліся назад. У ваенкамаце параілі прабірацца, як хто можа, на Магілёў. А як? Цягнікі не ходзяць. Пехатой ісці на свой страх і рызыку невядома куды ахвотнікаў не знайшлося. І заламалі нашы мужчыны дадому. На фронт у пачатку вайны з пухавіцкіх мужчын трапіў той, хто праходзіў тады абавязковую вайсковую службу. Астатнія прасядзелі дома ўсе тры гады акупацыі. Праўда, у сорак другім, сорак трэцім чалавек дзесяць пайшлі ў партызаны, прыкладна столькі — у паліцыю. А большасць проста працавала на зямлі. Навокал у лясной партызанскай зоне немцы палілі вёскі, забівалі людзей, а ў Пухавічах трываў нейкі парадак і адносны спакой. Толькі аднойчы ноччу некалькі атрадаў партызан спрабавалі ўварвацца ў мястэчка. Паліцыя адбівалася да раніцы, аж пакуль з Мар'інай Горкі не падаспелі ёй на дапамогу немцы. Партызанам давялося адступіць. Болей яны мястэчка не трывожылі.

Калі панавалі доўгія асеннія ды зімовыя вечары і камендацкая гадзіна, людзі знаходзілі спосабы пазабаўляцца. Хлопцы збіраліся ў вялікай хаце, прыводзілі туды гарманіста ды дзяўчат, завешвалі наглуха вокны ды наладжвалі вечарынкі. Мужчыны сыходзіліся ў невялікія кампаніі, пілі самагонку ды рэзаліся на грошы ў "ачко" і ў "рамса". Балазе, грошай хапала і савецкіх, і нямецкіх, бо яны амаль нічога не каштавалі. За пуд мукі, напрыклад, плацілі тысячу рублёў, альбо сто нямецкіх марак, ды і то яе мала хто прадаваў. У мястэчку працаваў толькі адзін невялікі ларок, у ім можна было купіць толькі газу ды соль, але і то не заўсёды. Таму банкі і стаўкі ў карцёжнікаў памерамі мала адрозніваліся ад Монтэ-карлінскіх.

Дзесьці ў сорак трэцім немцы ўзяліся абсталёўваць у Пухавічах былы савецкі аэрадром і лётчыцкі гарадок. Абавязалі з кожнай хаты ісці туды на працу кожны дзень па адным чалавеку. Гэта была ўжо лішняя турбота, аднак не зусім бескарысная. За гэта плацілі нейкія грошы, ды можна было ўкрасці якую дошку, ці жменю цвікоў, якіх не было дзе купіць.

Гэта лафа скончылася першага ліпеня 1944 года, цюцелька ў цюцельку праз тры гады нямецкай акупацыі. Прыйшло вызваленне. Першая ж вайсковая часць, што з'явілася ў Пухавічах, забрала сабе для папаўнення некалькі дзесяткаў мужчын. Без ніякіх праверак і аглядаў — хто трапіўся на вока. Дні праз тры вывесілі загад з'явіцца ў ваенкамат мужчынам ва ўзросце ад васемнаццаці да сарака гадоў. Прыбылі туды вельмі дружна. Нават тыя, хто мог свабодна застацца дома: сляпаватыя, глухія, крываногія, кілатыя, хворыя на язву, сухоты, "недапечаныя" і "недаробленыя". Справа ў тым, што ўсе адчувалі сябе вінаватымі. Чулі пра загад Сталіна знішчаць усе каштоўнасці на акупаванай тэрыторыі, паліць хлеб і лясы, ствараць партызанскія пешыя і конныя атрады, знішчаць немцаў і іх пасобнікаў на кожным кроку, дзе іх ні сустрэнеш. Замест гэтага працавалі на аэрадроме, кармілі ворагаў і тры гады жылі з імі ў добрай згодзе. Вось і з'явіліся ў ваенкамат усе як адзін, каб хоць неяк загладзіць сваю віну перад савецкай уладай.

Праўда, тыя, хто меў якія-небудзь хібы ў здароўі, спадзяваліся, што іх на законнай аснове вызваляць ад фронту. Аднак тыя, хто жыў у акупацыі, відаць, і сапраўды лічыліся вінаватымі. У раённы цэнтр сабралася мо тысячы тры з лішкам чалавек. Ды яшчэ жанчын, што праводзілі родных, амаль гэтульکі. Мар'іна Горка, мабыць, за ўсю сваю гісторыю не бачыла столькі народа на сваіх вуліцах. На шырокім двары былога Дома культуры за трыма сталамі сядзелі начальнікі-пісары. Ніякіх дактароў не было. Запісвалі прозвішча, імя і год нараджэння. Пашпарты, медыцынскія даведкі, атрыманыя да вайны ці пры немцах, ляцелі ў смецце. Дадому з тых, што з'явіліся ў ваенкамат, не вярнуўся ніхто. Да вечара ўсіх перапісалі, пашыхавалі ў калоны і, як сцямнела, доўгая стужка людзей рушыла ў дарогу. Не на захад, як чакалі, а кудысьці на поўдзень. Ішлі ўсю ноч, пяцьдзесят хвілін ходу, дзесяць — адпачынку. Без прывычкі было неймаверна цяжка. На хаду засыналі, стукаліся галовамі ў пярэдніх, валіліся пад ногі задніх. Хуткасць трымалі мо кіламетры два ў гадзіну.

Раніцай перайшлі раку Пціч ля вёскі Парэчча. На беразе адпачылі гадзіны тры, падмацаваліся ўзятымі з дому харчамі. Затым рушылі далей. Выйшлі на шашу Асіповічы — Шышчыцы — Бабоўня — Нясвіж — Сноў — Баранавічы. Цяпер ужо ішлі проста на захад. Хуткасць не задавальняла камандзіраў. Кантынгент падабраўся неверагодны, не было толькі бязногіх і бязрукіх. Многія адставалі ад калоны на вярсту і болей. Калона спынялася і чакала іх.

У лесе каля Бабоўні стаяў 146 АЗСП (армейскі запасны стралковы полк). Сюды прывялі таксама мабілізаваных з Асіповіцкага, Капыльскага, Старадарожскага раёнаў. У лесе ля кожнага дрэва сядзела па восем-дзесяць чалавек. Тут начальства рашыла вызваліцца ад хворых і нягеглых. Інакш немцаў, якія адступалі даволі хутка, і да зімы не дагоніш. Па лесе разнеслася каманда: "Хворым і аслабелым пастроіцца ля сухога рова на медыцынскі агляд!" Хоць указальнікаў да рова не было, яго адшукалі хутка. Хвілін праз дзесяць там выцягнуліся ў дзве крывыя шарэнгі чалавек пяцьсот. Гэта былі і сапраўды хворыя і нямоглыя, але нямала і такіх, што імкнуліся любым чынам выкруціцца ад фронту. У асноўным гэта бывалыя людзі, якія ведалі, па чым фунт ліха. Адзін пухавіцкі, з выгляду несамавіты, а на самай справе моцны і цягавіты мужык, увесь час прыкідваўся смяротна хворым. І ў Бабоўні, і ўсю дарогу да фронту ён трымаўся за жывот, качаўся па зямлі, прасіў, каб яго лепш прыстрэлілі, чым гэтак мучыцца. Ён ведаў, што дэталёва абследаваць яго, браць аналізы няма дзе і каму. Нарэшце ён так абрыдзеў начальству, што яму выдалі даведку аб хваробе і накіравалі ў свой ваенкамат. Ну, а там ён ужо знайшоў спосаб застацца дома аж да канца вайны. Толькі пасмейваўся з тых сумленных, што сапраўды ледзьве цягнулі ногі, але ішлі да фронту, каб злажыць там свае дурныя галовы.

Аднекуль прынеслі стол і табурэтку. З'явіўся шчуплы доктар-капітан, з выгляду яўрэй. Медагляд ён праводзіў у тэмпе, меў, як відаць, добрую практыку. Нават самы таленавіты сімулянт не мог яго ашукаць. Трубкамі і лыжачкамі ён не карыстаўся. Многіх нават не прымушаў здымаць кашулю. Акідваў поглядам хворага, загадваў павярнуцца, ступіць два-тры крокі. Альбо прысесьці, памахаць рукамі. "Прыгодны!" — чулася раз за разам. Некаторыя пярэчылі, даказвалі, што ўжо даўно безнадзейна хворыя. Называлі доктара, як прывыклі за тры гады, "господин начальник!" Але доктар толькі пасмейваўся, а вынік быў адзін. У некаторых ён пытаўся, як завуць, дыктаваў пісару за сталом: "Прыгодны да нестраявой службы, артыкул..." і называў лічбу. Праз нейкую гадзіну агляд закончыўся. Вызваленых ад службы "па чыстай" не аказалася. Усё ж гэтага натоўпу доктар прызнаў шэсцьдзесят чалавек прыгоднымі толькі да нестраявой службы. З Пухавіч у гэты лік патрапілі толькі тры чалавекі. Каб было зразумела, як у такога спеца-доктара яны не аказаліся страявымі, трэба хоць збольшага іх апісаць.

Васіль Калмач — высокі, але сагнуты ў дугу мужчына з белай, нібы памочанай у смятану галавой і барадой. На выгляд яму смела можна было даць семдзесят гадоў. І доктар, відаць, не паверыў, што яму толькі сорак. Мо ён рашыў, што Калмач хоча трапіць на фронт з нейкай патаемнай мэтай.

Міхась Кігрэт — таксама саракагадовы, але валасы меў рыжаватыя. З твару ён выглядаў такім худым, што доктар захацеў палюбавацца і яго целаскладам. Без кашулі Міхась аказаўся такім жа сытым, як і школьны вучэбны шкілет. Доктар яшчэ не ведаў, што Міхась быў крыху недапечаным, у мястэчку нават немаўляты звалі яго проста Мішам. На ўсе падзеі ў яго была запавоненая рэакцыя. Калі яму што-небудзь гаварылі, ён з усяе сілы стараўся гэта зразумець і глядзеў шырока адкрытымі блакітнымі вачыма. Аднак на гэта яму заўсёды не хапала часу. Калі гулялі ў "рамса", ён і з казырным тузам мог не ўзяць ніводнае біткі. Ён і яго старая маці займаліся галоўным чынам курэннем тытуню-самасаду. Без унушальнай самакруткі ўбачыць іх было немагчыма. І хата, і сенцы, і двор у іх былі нашпігаваны атрутным тытунёвым пахам. Відаць, пагэтаму Міша і выглядаў такім "тонкім, звонкім і празрыстым". Ды і пад такім сяброўскім, пранклівым позіркам доктар проста не мог сказаць: "Прыгодны да страявой!"

Яшчэ адзін пухавіцкі затрымаў увагу доктара. Пятрок Габуль з маленства рос не ўверх, а больш ушыркі. Усё ў яго раздавалася ўшырыню: твар, грудзі, а ногі, рукі, пальцы былі разы ў два таўсцейшыя, чым у звычайнага чалавека. Круглы твар, тоўстыя шчокі і вушы, нос, як здаравенная бульбіна, прыкоўвалі ўвагу нават тых, хто бачыў яго не ўпершыню. Крываватыя ногі глядзелі ступнямі ўнутр. Было дзіўна, як гэта яны не чапляюцца адна за адну, ды і рухаўся Пятрок даволі спрытна. Звалі яго ў мястэчку Пецька Дзіўны. Праўда, ва ўсім ён быў звычайным разумным чалавекам, калі не лічыць некаторых фізічных асаблівасцяў. Напрыклад, не ўмеў плаваць. Цяжкая камплекцыя не дазваляла яму трымацца на вадзе. Але ён нядрэнна адчуваў сябе і пад вадой. Апускаўся на дно і соваўся па ім, абапіраючыся рукамі і нагамі. Запас паветра ў яго магутных лёгкіх дазваляў сядзець пад вадой хвіліны дзве-тры. Дваццаціметровую рэчку Ціцяйку перад плацінай ля млына ён адольваў, не ўсплываючы, туды і назад. Толькі ля супрацьлеглага берага высоўваў з-пад вады руку ці нагу, каб паказаць, што ён там быў. Пецька і не пайшоў бы на медагляд, але яго падгаварылі аднавяскоўцы. Ён і пайшоў. Але доктар толькі крыху падумаў і адправіў Пецьку ў страявую. І не памыліўся. Пецька ваяваў і нават вярнуўся дадому з ордэнам Чырвонага Сцяга. А яго проста так не давалі. Праўда, незвычайна шкодны і здзеклівы Антось Варончык расказваў, што як немцы распачыналі ўраганны агонь, нашы пасылалі на бруствер Пецьку Дзіўнага. Агонь імгненна спыняўся. Немцы ў біноклі і стэрэатрубы разглядвалі незвычайнага салдата. За гэта, маўляў, яму і далі ордэн.

Трэцім пухавіцкім, які трапіў у нестраявыя, быў Шура Падгаецкі. Тут усё сыграў ролю выпадак. У доктара не было пісара. Відаць, на такую дробязную справу, як агляд хворых, не знайшлося больш людзей, акрамя капітана. Яму прыйшлося выбіраць сабе пісара з гэтых нябоездольных ваякаў. Шура Падгаецкі

*(Працяг на стар. 14)*

# САПРАЎДНАЕ — АД БОГА

Мне пашанцавала: у Палац мастацтваў на выставу Аляксея Кузьміча я прыйшла адначасова з актывістамі таварыства "Русь", і сам мастак быў у іх за экскурсавода. Тут была размешчана пашыраная выстава яго твораў (150 работ), і мне важна было параўнаць уражанне: напярэдадні давялося пагледзець карціны моднага зараз жывапісца ў Дзяржаўным мастацкім музеі. Можа, я памылілася, паспяшалася з высновамі, і "Свет славянскіх мадоннаў" — не такое сумнае відовішча, як мне падалося?

Але перш пра саму экскурсію. А. Кузьміч выступаў на ёй не як жывапісец, а як актыўны прапагандыст жывучых славяна-імперскіх ідэй. Я даведалася, што яго продкі стваралі вялікую імперыю, што святая Русь гіне ў варожым атачэнні сусветнага капіталізму; што ніхто не ведае культуры і гісторыі свайго (?) народа; што найвялікшы геній свету — Ілля Глазуноў; што сам ён — "шалёны патрыёт славянскага свету", што Ефрасіння Полацкая — царская дачка; што ў 1970 годзе яго аголеную натуру знялі з выставы і 19 год яго туды блізка не падпускалі. (П. Сабіна ў альбоме Кузьміча, праўда, піша, што не выстаўляўся мастак 15 гадоў, але не будзем чапляцца да лічбаў).

Кожнай карціне адпавядаў чарговы палымяны "спіч" — пра Чачню, пра Ельцына, пра гвалтоўна разарваныя славянскія землі, пра райкомаўскіх пярэваратняў, пра нашага першага ўсенароднага абранага, якога яму чамусьці шкада, і пра многае іншае.

Было няясна: не то А. Кузьмічу так хацелася спадабацца "Русі", не то гэта яго звычайны публіцыстычны набор (пры адсутнасці іншага). Калі першае, то ён дарма стараўся: аўтара слухалі з лёгкім недаверам і без чаканага патрыятычнага экстазу. Усё тое самае мог сказаць, зрэшты, і старшыня культурнага таварыства Уласаў, які выступіў напрыканцы.

Што ж да самой выставы... Божа мой, гэта ж столькі блізнят напладзіць за няпоўны дзесятак год! Жанчыны аголеныя і апранутыя, з дзіцянятамі і без іх, журботныя і заспакоеныя, з анёламі і з пачварамі, у кветках і проста на невыразных, наспех выпісаных фонах, і пры гэтым амаль усе яны называюцца мадоннамі. Даходзіць да абсурду. Я, напрыклад, не зразумела, чаму адна з карцін мае назву "Мадонна Францішка Скарыны". Гэта хто — маці, жонка, муза? А чаму ў адной з мадоннаў анёльскія крылцы? Анёлы ж, здаецца, бясполыя істоты. А самае сумнае ў гэтым відовішчы — бязлікасць вобразаў, бясконцы самапаўтор у кампазіцыях і саладжавая пяшчотнасць, разлітая амаль па ўсіх работах. На адной з іх я налічыла па перыметры 25 анёлскіх ідэнтычных тварыкаў. "Мадонна ў тварыках" — так трэба было назваць карціну...

Справа, вядома ж, не ў назвах, не ў светапоглядная блытаніне самога мастака і не ў яго нацыянальнай неідэнтыфікаванасці. Можна што заўгодна несці ў вузкім коле (мастакам, як і паэтам, даравальна быць "глуповатыми"). Галоўнае — творчасць. Калі ты эксплуатуеш аднойчы знойдзены вобраз, а, можа, і спекулюеш на ім, калі паўтараешся, перабіраеш меру, проста плодзіш колькасць — то які ты ўрэшце творца? Столькі сама мастацтва было калісьці ў маляваных дыванах з лебедзямі. І то калі яны не належалі Алене Кіш ці Язэпу Драздовічу.

І не сказаць, каб быў абдзелены талентам. Ёсць пранізлівы трагізм у вачах В. Турава, ёсць праўда ў "Старасці", у "Натхненні", ёсць стрыманасць і павага да асобы ў партрэце С. Станюты. Але ўсё гэта палотны 80-х гадоў.

Накont царкоўнага антуражу трэба сказаць асобна. Мяркуючы па яго ранніх "ню" і распрацоўках многіх мадоннаў, мастака не западозрыш у рэлігійным фанатызме. Мабыць, з праваслаўным клірам у яго складаныя адносіны, бо ўсе анёлы, цэрквы і крыжы — толькі аздабленне, толькі прыём, даніна модзе. Дарэчы, і з'явіліся яны ў работах Кузьміча адно ў канцы 80-х — тады, калі стала "можна". Нічога агульнага з хрысціянствам не маюць і такія дзіўнаватыя палотны, як "Троіца", "Благавешчанне" — на іх тыя самыя знаёмыя нам вывы.

Пры чым тут увогуле мадонна? — думаю я. Жанчынай можна захапляцца, можна любавацца, можна ўзвялічваць і абагаўляць як маці і ўвасабленне характва і без гэтага слоўнага клішэ. Маю смеласць выказаць апасенне, што гэтая "святая" галерэя можа загубіць Аляксея Кузьміча як творцу. Тым больш, што ніхто са спецыялістаў не спяшаецца выказаць у друку праўду пра яго мастацкія здабыткі. Наадварот: яго імя суправаджае гучная рэклама ў афіцыйных СМІ, на адкрыцці яго выставы прысутнічала першая асоба дзяржавы. І хоць мастак на словах адхрышчваецца ад палітыкі, але менавіта палітыка, самы сумніцельны і спецыфічны яе накірунак і ўзнёс мастака на грэбень славы. Заўважым, што на тым самым адкрыцці не прысутнічала ніводнага яго калегі, а гэта сімптаматычна.

Дарагой для сябе карцінай лічыць мастак "Мадонну з грэшнымі анёламі". Пры гэтым ён сам не ўпэўнены, анёлы на ёй намаляваны ці чэрці. А трэба было б вызначыцца і з дэфініцыямі, і сутнасна, бо толькі сапраўднае мастацтва — ад Бога.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# "Я ЖЫВУ ТЭАТРАМ І ТОЛЬКІ..."

*(Праціяг. Пачатак на стар. 1)*

— Вельмі люблю Гогаля за ягоны незвычайны, фантасмагарычны падыход да жыцця, да з'яў. У спектаклі паводле "Запісак вар'ята" я змяніў Андрэя Градабоева: на яго задумваўся спектакль, з ім ішлі рэпетыцыйныя пошукі... (А. Градабоеў пакінуў тэатр. — **Ж.Л.**) Але ж і я думаў над "Запіскамі..." даўно. Яны блізкія мне па душэўным стане. Спачатку спектакль больш нагадваў літаратурны тэатр. Мы з рэжысёрам знайшлі ўнутраныя канфлікты ды падзеі на мікраўзроўні, скажам, на такім — "яна не пазнала яго", — колькі пачуццяў ускалыхнулася ў героі з-за гэтага непазнавання!

**— А ў чым літаратурным матэрыяле вы бачыце для сябе ролі?**

— Люблю і хацеў бы сыграць Дастаеўскага. Даўняя і моцная мая любоў — Уладзімір Караткевіч. Зянон Пазняк з ім пазнаёміў — у лістападзе 66-га года, я быў яшчэ студэнтам. Да знаёмства патрапіў прачытаць "Дзікае паляванне...": так яно на мяне абрынулася, так узрушыла, што насіў твор аднакурснікам, прасіў, проста прасіў іх хоць прачытаць, страшэнна шчаслівы, што ў нас ёсць такая гісторыя. Бадай, як беларус я тады і нарадзіўся.

**— Каму ў рабоце на сцэне вы больш давяраеце: сабе, рэжысёру, драматургу?**

— Ёсць драматургі, якіх трэба пераадольваць, ёсць такія, да якіх трэба цягнуцца. Супольна з рэжысёрам Антонам Грышкевічам нараджалі "Цырк Шардам": рэпеціравалі, а як дайшлі да фіналу, я вазьмі ды папытай: маўляў, Антон, а п'есу ты чытаў? Бо... якая там, перапрашаю, п'еса?! Проста нумары для лялечнага тэатра! І вось тады пачалі думаць... пра Шэкспіра, пра мару вандроўнае трупы сыграць "Гамлета" замест штодзённых рамесных забавак, — тады і вынікнуў танец майго Дырэктара, які нібы ратуе сваю трупу ад раскідання, — танец як узор таго высокага, да чаго трэба акцёру імкнуцца... А гэта быў мой дыпломны танец з чацвёртага курса, толькі без прадугледжанай партнёркі...

**— Значыць, на сцэне больш за каго іншага вы ўсё-такі спадзеяецеся на сябе?**

— А як жа інакш акцёру? Мне пашчасціла на Антона Грышкевіча. Ён з фармацыі рэжысёраў нетрадыцыйнага мыслення. У нас тры сумесныя работы: "Пакрыўджаныя" Л. Родзевіча, а таксама памянёныя "Цырк Шардам" і "Нічога, нічога — маўчанне...". "Пакрыўджаныя", на жаль, вельмі нядоўга ішлі, іграць мусілі на сорак-пяцьдзесят чалавек у зале: глядач спектакль не ўпадабаў. Мо з яркай нацыянальнай ідэі? Неразумныя дзеці пасеклі скульптуру, каб спячы аладкі, — тою скульптураю талент мусіў выкупляцца з прыгону... Драматургія рыхлая, але спектакль атрымаўся! Дарэчы, я з Антонам няшмат рэпецірую, — "Запіскі..." ("Нічога, нічога..." — **Ж.Л.**) каля дзесяці разоў па пятнаццаць-дваццаць хвілін. Усё — паводле шэрагу падзей. На апошняй рэпетыцыі сабралі кавалкі ў спектакль: мой герой выйшаў з вар'ятні, шукае свайго дома, стукаецца ў дзверы, поркаецца па кішэнях, знаходзіць насоўку... І, высвятляецца, усё памятае!

**— А на якія рэжысёравы прапановы вам найбольш шэнціць?**

— Нам і на саміх рэжысёраў шэнціць мала. Майце на ўвазе, што ўсе акцёрскія знакамітасці проста купаліся ў талентах сваіх рэжысёраў. У нас (Віцебск!) выбару няма. Кола лепшых — вузкае. (З тых, на чыю прафесійнасць можна абаперціся, чыёй абазнанасці можна даверыцца.) Выпадала і самому сабе ставіць, — добра, што не развучыўся яшчэ крытычна пазіраць на сябе збоку. Паверце, рэжысёраў гарт перадусім залежыць ад... горада, дзе знаходзіцца тэатр. Някрошус проста не спраўдзіўся б у Віцебску (з ягонымі суцэльнымі метафарамі ды асацыяцыямі). Наша публіка заахвочвае павароткі сюжэту. Да тэатральных далікатцваў трэба прывучаць, выхоўваючы. Дарэчы, за сваю публіку я хацеў бы... заступіцца. Асабліва пасля гастроляў у Германіі, дзе сам факт з'яўлення чалавека на сцэне выгукае ў зале ўдзячнасць. Нашы — разборлівыя. Праўда, з майго пункту гледжання, лепшыя спектаклі сыходзілі са сцэны вельмі хутка: "Вежа", напрыклад (Дудараў-Някляеў, рэжысёр Мазынскі). А "Улада цемры"? "Клоп"? "Сымон-музыка"? "Сымона...", як ні дзіўна, больш падтрымала ды ўпадабала школьная публіка, бо ён, бачыце, у праграме школьнай...

**— Я віншую вас з атрыманнем звання заслужанага артыста Беларусі і дзіўлюся вашай мастакоўскай трывушчасці...**

— Я жыву тэатрам і толькі. Але так жыве шмат хто з акцёраў: прафесія вымагае. Засяроджанасць на сцэне вялікая, менш сталічнай місусні. Тэатр нібы ахоўвае нас. Ад усіх скрутаў, ад усіх недарэчнасцяў, ад усіх тэатралізацый нашага жыцця...

**З Алесем ЛАБАНКОМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Віцебск—Мінск*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

ПАВЕЛ САКОВІЧ

# ЭПІГРАМЫ, ЯК РЭКЛАМЫ

## ФЕСТЫВАЛЬ "СЛАВЯНСКІ БАЗАР"

**Славяне — братнія народы —**
**Да рыначнай імкнуцца моды:**
**Свае рэсурсы падлічылі**
**І ў "складчыну" базар стварылі.**
**Базар той, кажуць, не звычайны,**
**А вельмі ўжо арыгінальны:**
**Замест кілбас і кумпякоў**
**Тут прапануюць... спевакоў.**
**Іх оптам нават прадаюць,**
**А людзі валам прупь і прупь,**
**Нібы на нейкую таўкучку,**
**Дзе маюць за рубель не "штучку" —**
**Магутную, лічыце, кучку...**

**Няўжо тавар такі некандыцыйны,**
**Ці мы прадзешавілі... традыцыйна?**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК

**Пачаў разводзіць ён звяроў,**
**З пушніны каб займець прыбытак:**
**Зайцоў, баброў і нат зуброў —**
**Іх пералік заняў бы сшытак.**

**Лічы, амаль зверасаўгас...**
**Ды мы ў ім штось агаладалі.**
**Не ўратаваў "звярынец" нас,**
**Таму яго і разагналі!**

**Пакінулі адных зуброў.**
**Як з імі быць — параду дайце:**
**Яны накшталт святых кароў**
**Сярод будынкаў на асфальце.**

**А трэба мо рублю надаць**
**Усё ж чалавечае аблічча?**
**Зуброў навошта маляваць,**
**Лепш фота прэзідэнта даць —**
**І вырасце рубель, мы лічым!**

**Нацбанку гэту я прадам ідэю —**
**І капітал мо стартавы займею...**

## БЕЛАРУСКАЯ ЧЫГУНКА

**Сто дваццаць пяць жалезнай нашай "лэдзі"!**
**Яна не гнецца і не горбіцца, аднак.**
**Яе так проста не абскачаш, не аб'едзеш,**
**Дзе сядзеш "зайцам" на яе, дык там і злезеш, —**
**З ёй справіцца, як бачыце, нялёгка так.**

**Яна вузлы свае там-сям "на памяць" вяжа,**
**Каб не заблытаўся нідзе сталёвы шлях,**
**Міргне агеньчыкам, старанна стрэлкі змажа...**
**Не верце тым, хто пра яе "старая!" скажа,**
**Хоць і трымаецца здаўна... на кастылях.**

**З чыгункай нашай мы надзей звязалі многа**
**І ўжо наўрад калі паўторым свой пралік:**
**Перакананы мы: зноў родная дарога**
**"Наш паравоз" не завядзе ў тупік!**

## ЛІНГВІСТЫЧНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

**Тут "па-заморску" гаварыць навучаць —**
**Якую хочаш мову выбірай:**
**Французскую прыемна вельмі слухаць,**
**А на нямецкай — строга размаўляй.**

**Калі з прэстыжнай гэтай установы**
**Ты выйдзеш, як сапраўдны паліглот, —**
**Не будзе ўжо праблем "агульнай мовы",**
**Не лічачы... уласны свой народ.**

**Гатовы я у роспачы бязмежнай**
**Параду гэткую начальству даць:**
**Каб мове роднай неяк паспрыяць,**
**Мо варта б статус ёй замежны**
**У лінгвістычнай ВНУ надаць?**

## БЕЛАРУСКАЯ СЕЛЬГАСАКАДЭМІЯ

**Даўно пара славутай акадэміі**
**Дзяржаўную — не менш — прысвоіць прэмію!**
**Калі спытаеце мяне: "Завошта?",**
**Я растлумачу гэта вельмі проста.**
**Не, тут калгасныя палеткі ні прычым,**
**Увага акадэмікаў — якраз не ім:**
**Разумную заўсёды прафесуру,**
**Магчыма, вабіць новая культура.**
**Дацэнты, дактары даволі часта**
**Праводзяць дні на вопытных участках:**
**Свяцілы-навукоўцы, нібы сонцы,**
**Абаграваюць іх сабой бясконца.**
**Ну, а саджаюць жа культуру гэту тым**
**Вядомым спосабам: квадратна-гнездавым.**
**Культура гэтая — вядомыя нам кадры.**
**Яны імкнуцца ўверх расці, ды так упарта!**
**У гарадскіх іх стрэнеш кабінетах**
**Куды часцей, чым на палетках гэтых.**
**Яны рэкордныя даюць "прывесы",**
**Нібы стараюцца якраз для прэсы.**

**Працуе ў Горках кузня кадраў без падману:**
**Усе тут добра для кар'еры падкаваны!**

## КІНАСТУДЫЯ "БЕЛАРУСЬФІЛЬМ"

**Здымаць кіно цяпер —**
**няма ні сродкаў, ні ахвоты,**
**Таму вострасюжэтныя**
**здымаць мо лепей фота?**
**Няхай прыгожыя**
**актрысы паўнагрудыя**
**Глядзяць з вітрыны**
**не кіно-, а фотастудыі.**
**Тады ўсе пабягуць**
**трушком туды здымацца,**
**І будуць грошыкі**
**да грошыкаў збірацца...**
**Калі майстры кіно**
**у рынку прыжывуцца —**
**Глядзіш, і здымкі**
**новых фільмаў мо пачнуцца.**

**Вось план сцэнарыя**
**трагікамічнага кіно.**
**Адно пакуль не ведаю —**
**чым скончыцца яно.**

## АБ'ЯДНАННІ ВІНА-ГАРЭЛАЧНЫХ ЗАВОДАЎ

**У іх няйнакш з урадам нашым здзелка,**
**Бо ўсім вядома гэта "навіна":**
**Чым горш жыццё, тым болей п'ем гарэлкі,**
**Таму й квітнее гэта галіна!**

**У баявым страі стаяць бутэлькі,**
**І непатрэбны тут спецназ, амон:**
**Нібы дубцом, б'е па мазгах гарэлка —**
**І людзі ўжо глядзяць "шчаслівы сон".**

**Начальству гэта — як бальзам на раны:**
**Цяпер яно спакойна пажыве,**
**І нат у падначаленых старанных, —**
**Што перакрылі па гарэлцы планы, —**
**Ад поспеху кружэнне ў галаве!**

***Напэўна, кожнаму, хто займаецца архіўнымі росшукамі, знаёмае пачуццё засмучэння, калі з-за вечнага цэйтноту і адсутнасці ў нашых архівах капіравальнай тэхнікі мусіш спешна прагортваць найцікавейшыя дакументы, не маючы магчымасці затрымаць на іх увагу — толькі таму, што сваім зместам яны выходзяць за межы тваёй непасрэднай тэмы. І ўсё ж было б недаравальнай абыякавасцю прайсці міма некалькіх аркушаў машынапіснага тэксту, на якія надарылася натрапіць у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, бо датычаць яны такой маштабнай і глыбіннай з'явы нашай гісторыі і культуры, як Максім Гарэцкі.***

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ І ДАРАФЕЙ БОХАН

## ДА ГІСТОРЫІ АДНОЙ ДЫСКУСІІ

Наколькі можна меркаваць паводле сумежных дакументаў справы, згаданыя аркушы адносяцца да папер Беларускага прэс-бюро ў Коўне (дзейнічала ў 1921—1924 гг. пры дыпламатычным прадстаўніцтве БНР у Літве) і ўяўляюць сабой копіі трох публікацый 1923 года ў віленскай рускамоўнай газеце "Виленское утро". Публікацыі з'явіліся неўзабаве пасля выхаду ў свет знакамітай "Хрэстаматыі беларускае літаратуры", укладзенай М. Гарэцкім, і прысвечаны яе аналізу. У архіўнай справе не ўказаны дакладныя даты публікацый, названы толькі нумары газеты — 470 і 477. На жаль, адшукаць гэтыя нумары ў сховішчах Мінска, Гродна і Вільні пакуль не ўдалося. Тым часам знойдзеныя машынапісныя копіі даволі недасканалыя, выкананы неакуратна, утрымліваюць пропускі і памылкі друку. Таму публікаваць іх сёння ў якасці дакументальных крыніц нельга. Але, улічваючы тое, што матэрыялы, на след якіх давялося натрапіць, даследчыкам жыцця і творчасці М. Гарэцкага невядомыя, дазволім сабе пераказаць іх асноўны змест. Будзем спадзявацца, што пададзеная інфармацыя зацікавіць спецыялістаў і дапаможа ім адшукаць аўтэнтычныя тэксты.

Такім чынам, адгукаючыся на выхад "Хрэстаматыі беларускае літаратуры", газета "Виленское утро" змяшчае ў 1923 годзе наступныя матэрыялы: рэцэнзію Д. Бохана "Максим Горецкий и его "Хрэстаматыя"; "Письмо в редакцию" М. Гарэцкага, напісанае ў адказ на выступленне рэцэнзента; рэпліку Д. Бохана пад назвай "Мой ответ г. Горецкому".

Аўтар водгукаў на "Хрэстаматыю" Дарафей Дарафеевіч Бохан (1878—?) — карэнны мінчук, сын адстаўнога генерала, мінскага домаўласніка — быў вядомы як рускамоўны літаратар ліберальна-дэмакратычных поглядаў. На пачатку XX стагоддзя ён актыўна супрацоўнічаў у перыядычным друку Мінска, пісаў апавяданні, вершы і гістарычныя паэмы, апублікаваў свой пераклад на сучасную рускую мову "Слова аб палку Ігаравым". Паводле нацыянальнай самаідэнтыфікацыі Д. Бохан схіляўся хутчэй да "заходнерусізму". Тым не менш у літаратурных і публіцыстычных артыкулах ён засведчыў сваю прыхільнасць нацыянальна-культурнаму адраджэнню беларусаў, у 1905 годзе нават збіраўся выдаваць у Мінску разам з К. Каганцом беларускі часопіс "Палессе". Пасля сацыяльна-палітычных катаклізмаў 1917—1920 гг. Д. Бохан жыў у Вільні.

Абмен думкамі паміж Д. Боханам і М. Гарэцкім на старонках "Виленского утра" цікавы найперш сваёй палемічнай вастрынёй. Пры гэтым закранаюцца важныя пытанні нацыянальнай атрыбуцыі старажытных помнікаў пісьменства, праблема спалучэння навуковай аб'ектыўнасці з актыўнай, высокапатрыятычнай грамадзянскай пазіцыяй даследчыка. Гэтыя развагі, у сваю чаргу, выводзяць на больш шырокі роздум пра меру і спосабы выкарыстання духоўнай спадчыны для абуджэння нацыянальнай годнасці народа, яго гістарычнага самасцвярджэння.

Д. Бохан у цэлым вітаў выхад у свет "Хрэстаматыі" М. Гарэцкага, адзначыў, што "праца яго, як і ўсе кнігі гэтага выдатнага работніка на культурнай беларускай ніве, вельмі цікавая, вельмі карысная як навучальны дапаможнік і заслугоўвае вялікай увагі". Тым не менш водгук рэцэнзента быў прасякнуты крытычным пафасам і ўтрымліваў два даволі сур'ёзныя папрокі: у далучэнні М. Гарэцкім да беларускай літаратуры не належачых ёй твораў і ў іх тэкстуальным скажэнні.

Перш за ўсё Д. Бохан давадзіў, што "нічога агульнага з беларусамі" не мае ўсходнеславянская літаратура X—XII стст. Поруч з тагачаснымі перакладнымі творамі ("Хронікай" Іаана Малалы, "Ізборнікам Святаслава", "Хранографам") ён выносіў за дужкі літаратурнага працэсу на нашых землях і арыгінальныя старажытнарускія помнікі — "Аповесць мінулых гадоў", "Хаджэнне" Ігумена Данііла і нават "Слова аб палку Ігаравым", якое, на думку рэцэнзента, "зусім дарэмна" трапіла ў гісторыю беларускай літаратуры.

Далей — болей. Паводле Д. Бохана, не мелі адносін да нашага пісьменства Стафан Зізаній, Мялецій Смятрыцкі, таксама як і Сімяон Полацкі, чые "рускія" вершы апынуліся ў беларускай хрэстаматыі, маўляў, толькі таму, што іх аўтар "геаграфічна звязаны з Полацкам".

Тут дарэчы будзе заўважыць, што крытычныя закіды Д. Бохана былі дыяметральна процілеглыя пазіцыі Р. Зямкевіча, які ў вядомым артыкуле "Гутаркі аб беларускай літаратуры" (віленская газета "Новае жыццё", 1923, N 1, 3 сакавіка) пры разборы "Хрэстаматыі" М. Гарэцкага адзначаў:

"Пішучы ці гісторыю літаратуры, ці гістарычную хрэстаматыю, а б с а л ю т н а н е м а г ч ы м а (выдзелена Р. Зямкевічам. — **С. Р.**) беларусу не зазірнуць у расейскія ці украінскія працы, бо адтуль трэба выцягнуць тое беларускае багацце, каторае гэтыя народы залічылі да сваёй культуры.

Украінцы ў стасунку да расейцаў ужо адабралі сваё багацце. Астаецца тое самае зрабіць і нам, беларусам".

Р. Зямкевіч лічыў, што М. Гарэцкі недастаткова рэалізаваў гэтую задачу, у прыватнасці, слаба прадставіў у "Хрэстаматыі" творчасць братоў Зізаніяў, М. Смятрыцкага і іншых пісьменнікаў XVI—XVII стст. Цалкам разыходзячыся з Д. Боханам, Р. Зямкевіч папракнуў укладальніка беларускай хрэстаматыі за тое, што ў ёй няма твораў тых беларусаў (за выключэннем Сімяона Полацкага), якія вымушаны былі працаваць у Расіі і на Украіне.

Вяртаючыся да поглядаў Д. Бохана, адзначым яшчэ, што ў палемічным запале ён адмовіўся прызнаць дачыненне да беларускай літаратуры нават Яна Чачота і Уладзіслава Сыракомлі, лічачы іх выключна польскімі пісьменнікамі.

Поруч з "прысваеннем" (тэрмін Д. Бохана) беларускай літаратуры не належачых ёй твораў, рэцэнзент "выявіў" у М. Гарэцкага яшчэ адзін "грэх" — свядомае скажэнне тэкстаў з мэтай надаць ім беларускі характар. Гэты свой тэзіс Д. Бохан спрабаваў аргументаваць параўнаннем арыгінала "Слова аб палку Ігаравым" з яго адаптаваным варыянтам у "Хрэстаматыі".

Кідаецца ў вочы, што ў абодвух сваіх газетных выступленнях, прысвечаных "Хрэстаматыі беларускае літаратуры", Д. Бохан настойліва праводзіць думку, быццам адзначаныя ім хібы дапушчаны ўкладальнікам свядома, з'яўляюцца праявамі пэўнай, загадзя абдуманай, прадузятай тэндэнцыі — тэндэнцыі ў імя беларускага патрыятызму. Такі ход разваг нават наводзіць Д. Бохана на асацыяцыю з шырока вядомымі ў славяназнаўстве літаратурнымі падробкамі XIX ст.: сфабрыкаванымі чэшскім славістам Вацлавам Ганкам т. зв. Краледворскім і Зеленагорскім рукапісамі (пры гэтым Д. Бохан адзначае іх станоўчую ролю ва ўмацаванні нацыянальнай свядомасці чэхаў), а таксама ажыццёўленай Стэфанам Веркавічам містыфікацыі псеўдастаражытнага балгарскага эпасу "Веда славена". Праўда, Д. Бохан далёкі ад абвінавачвання М. Гарэцкага ў падобных фальсіфікацыях. Аднак, запэўніўшы чытача ў сваёй прыхільнасці да беларускага культурнага адраджэння, ён абвясціў зусім лішнімі і нават шкоднымі "патугі падвесці пад новую беларускую літаратуру нейкае дзіўнае генеалагічнае дрэва".

Натуральна, укладальнік хрэстаматыі не мог прайсці міма такіх закідаў свайго крытыка. На жаль, "Письмо в редакцию" М. Гарэцкага, апублікаванае праз некалькі нумароў, з-за нейкіх, магчыма, пабочных прычын атрымалася даволі лаканічным і таму менш канкрэтным, чым выступленні Д. Бохана. М. Гарэцкі абмежаваўся агульнай заўвагай, што рэцэнзент не падмацаваў навуковымі аргументамі сваіх заяў аб неправамернасці ўключэння таго ці іншага твора ў хрэстаматыю, таму і навуковае абвяржэнне іх немагчымае. Такая канстатацыя, правільная па сутнасці і цалкам зразумелая з вышыні сённяшніх ведаў па гісторыі літаратуры, наўрад ці гучала пераканаўча ў кантэксце тагачасных уяўленняў, тым больш для чытача рускамоўнай газеты. Не на баку Гарэцкага, а на баку Бохана была сіла гістарыяграфічнай традыцыі, тых стэрэатыпаў, што з дзяцінства прышчапляліся чытаючай публіцы афіцыйнай навукай і школай. Менавіта за гэту акалічнасць і ўхапіўся няўрымслівы апанент М. Гарэцкага, адпарыраваўшы з выглядам пераможцы: навуковыя довады, маўляў, павінен прыводзіць той, хто прапануе новую канцэпцыю, якая разыходзіцца з агульнапрынятымі поглядамі.

Што да абвінавачвання ў скажэнні помнікаў, то М. Гарэцкі лічыў непазбежным і цалкам натуральным адыход ад аўтэнтычнай перадачы старажытных тэкстаў у навучальным дапаможніку. Без адаптацыі помнікаў да сучаснага пісьма (пры ўмове захавання іх фанетычных адметнасцей) яны засталіся б недаступнымі для беларускіх вучняў, асабліва выхадцаў з каталіцкіх сем'яў. А самае важнае, заўважаў М. Гарэцкі, што ў яго "Гісторыі беларускае літаратуры" змешчаны фотакопіі ўзораў старажытнага пісьма і друку, якія здымаюць усялякія падазрэнні ў "зламысным жаданні сказіць помнік у беларускі бок".

Такі, у сціслым пераказе, змест дыскусіі, што адбылася паміж М. Гарэцкім і яго ў цэлым усё ж добразычлівым крытыкам Д. Боханам пасля выхаду ў свет "Хрэстаматыі беларускае літаратуры". Уяўляецца, што матэрыялы гэтай дыскусіі могуць быць цікавымі ў некалькіх аспектах. Па-першае, да вядомых ужо рэцэнзій на "Хрэстаматыю", акрамя ўзгаданага вышэй артыкула Р. Зямкевіча, у біябібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" зафіксаваны яшчэ два водгукі: у "Przegladzie Wilenskim" (1923, N 7), і ў "Полымі" (1923, N 3/4) далучаюцца артыкулы Д. Бохана; пры гэтым выяўляецца пэўная палярнасць ва ўспрыманні грамадскасцю працы М. Гарэцкага. Па-другое, адкрываецца шлях да пошуку невядомай раней публікацыі самога М. Гарэцкага — яго "Письма в редакцию". І, патрэцяе, разгледжаны эпізод дадае новы штрых у нашы ўяўленні пра эвалюцыю беларускай нацыянальнай ідэі, ролю ў яе выкрышталізацыі духоўна-мастацкай, гістарычнай спадчыны нашага народа.

**Станіслаў РУДОВІЧ**

Міхась СКОБЛА

## АБОЕ РАБОЕ

*Каханне наша — дым.*
*Агонь даўно патух.*
*Ты ў мне штоноч з другім —*
*выходзіць, любіш двух?*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*О, як была б ты рада*
*Іншага ў сне кахаць...*

Э. Акулін

**Стаў чуйным я, як мыш.**
**Мне аж займае дых:**
**ты па начах не спіш,**
**кахаючы другіх.**

**Ратуйце, свенты Рох**
**і ўсіх святых шыхты —**
**за ноч па двух, па трох**
**кахаць прывыкла ты!**

**Разгублена прашу:**
**а мо ўжо хопіць, до?**
**Калі ж я дапішу**
**газэлю і рандо?**

**Зноў, толькі сяду ў кут**
**да стансаў і актаў,**
**каханкі тут як тут —**
**от каб па мордзе даў!**

**Іх па зямлі качаў**
**твайго кахання хмель.**
**Я ж даўдна канчаў**
**канцону й рытурнэль.**

**З пярыны нашай пух**
**ляцеў, як першы снег.**
**Тэрцыну і туюг**
**дапісваў я наспех.**

**Ты рада і я рад.**
**Меў кожны, што хацеў.**
**Мой паэтычны сад**
**вунь як пабагацеў!**

## ПАЭТ-НЕБАРАК І ЗАМОРСКІ ФРАК

*Як на баль, апрануся дыхтоўна,*
*У парык агарну сваю плеш...*

*Вось і я выбіраюся, толькі*
*Апрану свой караслівы фрак.*

У. Марук

**Чалавек я спакойны і просты,**
**Хоць і маю на макаўцы плеш.**
**Ды набраўся аднекуль кароcты —**
**Не ўплывае на талент, але ж...**

**Толькі сяду пакрэсліць папірус,**
**Каб на хлеб ды ваду зарабіць,**
**Як з-за пазухі выгляне вірус —**
**І адразу ўсё засвярбіць.**

**Мне сябры спачуваюць: — Бывае,**
**Ты б гарэлкай сябе пакрапіў...**
**Дзе ж яго я — у цесным трамваі,**
**Ці ў чарзе на Алімп падхапіў?**

**Раптам ліст мне прыйшоў —**
**са Стагкольму:**
**— Прыязджай,**
**Нобель прэмію дасць.**
**Ну і што, падкажыце, з таго мне?**
**Фрак прыслалі,**
**каб быў ім пад масць.**

**Доўга я танцаваў ля люстэрка.**
**Меркаваў, калі што — пасяку.**
**Гэта ж вам не сурдут, не бравэрка,**
**Не налезе й Дранько-Майсюку.**

**Вы даруйце, калегі-пісакі,**
**(Апранаў я, таму й гавару):**
**Тыя фракі на нашыя...**
**Як ні мерай, а ўсё не ў пару.**

## ТРАМВАЙНАЯ ПАЭЗІЯ

*Разыдземся не караблямі,*
*а трамваямі,*
*Патарахцім у розныя бакі.*

А. Тулупава

**Ну як, скажы,**
**да гэтых пор трывалі мы?**
**Ты быў заўсёды нейкі не такі.**

**Мы тарахцім**
**па горадзе трамваямі,**
**Заўсёды, праўда, ў розныя бакі.**

**Паэтам што —**
**жывуць сабе на Лесбасе,**
**Адпачываюць летам у Ляўках.**
**Не ездзяць ні ў трамваі,**
**ні ў тралейбусе —**
**І застаюцца песняй у вяках!**

**А мы, нібы рамізнікі даўнейшыя,**
**Вязём рамесны і астані люд,**
**Што ў тарахценне**
**показкі дамешвае,**
**Бо што ні пасажыр,**
**то — словаблуд.**

**На канцавым прыпынку**
**станем поруч мы.**
**Ты толькі ўз'едзеш на мае пуці,**
**Як нейкі злыдзень таргане**
**за поручні —**
**Маўляў, давай, Анэля, тарахці.**

**Няхай жыве паэзія**
**трамвайная,**
**Што ўмее захаваць лірычны стыль!**
**Як два педалі,**
**простая і файная,**
**Надзейная, бы рэйкавы кастыль.**


ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4822
Нумар падпісаны 5.12.1996 г.
Заказ 7656/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12